STOWARZYSZENIE MUZEUM I OŚRODEK KULTURY BIAŁORUSKIEJ w HAJNÓWCE
17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42
tel. (085) 682 28 69
BIBLIOTEKA

# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 10 (1504) ГОД XXX БЕЛАСТОК 10 САКАВІКА 1985 г. ЦАНА 8 зл.

* * *

*Як заблуканы звер,*
*Сляды гадоў чытаю:*
*Якая ты цяпер?*
*Ці тая ты?*
*Ці тая?*

*За даўні недавер*
*Сам на сябе лютую.*
*Я помню і цяпер*
*Цябе ўсё тую,*
*Тую.*

*Што толькі мне была*
*Травінкаю з дзялянкі,*
*Былінкаю святла,*
*Галінкаю маланкі.*

*Гукаю часу:*
*— Стой!*
*Гады слядоў не блытаю.*
*Я з той,*
*Я з той,*
*Я з той,*
*Дагэтуль не забытаю!*

*Як той бабыль з мяжы,*
*Сам у сябе пытаю,*
*Дзе ты цяпер,*
*Скажы,*
*Ці ты яшчэ ўсё тая?!*

**Рыгор Барадулін**



**Фота У. Казлова**

## РАЁННАЕ ПРАЎЛЕННЕ БГКТ У САКОЛЦЫ

Ліквідацыя раённых аддзелаў у канцы 1975 года прынесла нашай арганізацыі многа шкоды. Аслабла ўздзеянне на гурткі БГКТ, распаўся ў былых павятовых аддзелах добры, адданы актыў. Двухступенная структура БГКТ ускладніла культурна-асветную дзейнасць ГП.

Цяпер вяртаемся да папярэдняй, трохступеннай — праверанай арганізацыйнай структуры. Пачалася кампанія па стварэнню раённых праўленняў БГКТ.

17 лютага ў Доме партыі ў Саколцы адбылася выбарная канферэнцыя. Праўда, быў гэта дзень неспрыяльны, вельмі марозны, на тэрмометры было больш 20 градусаў. На лініі Крынкі-Саколка курсавалі не ўсе аўтобусы. Таму людзі з некаторых гурткоў не прыбылі. Нягледзячы на гэта, канферэнцыя адбылася і выканала свае заданні.

Адкрыў яе намеснік старшыні Галоўнага праўлення БГКТ Янка Зенюк. Пасля ўступнага слова папрасіў ён, каб канферэнцыю вёў вядомы мясцовы дзеяч Кастусь Моцька. Кастусь Моцька запрапанаваў прэзідыум канферэнцыі, камісію прапаноў у складзе: Віктар Качан, Мікалай Сцепанюк і Аляксандр Тур, а таксама выбарную камісію ў складзе: Уладзімір Сіткевіч, Аляксандр Юргель і Расціслаў Мадзалеўскі.

З дакладам на тэму: „Галоўныя напрамкі працы БГКТ і роля раённага праўлення" выступіў член Прэзідыума ГП, М. Хмялеўскі. Дакладчык асаблівую ўвагу звярнуў на шырэнне нацыянальнай свядомасці, пашаны да роднай мовы, на павелічэнне колькасці падпісчыкаў „Нівы", арганізаванне мастацкіх калектываў і разбудову арганізацыі.

На Сакольшчыне не так, як на Бельшчыне ці Гайнаўшчыне, дзе ўсплашную, амаль усе вёскі беларускія. На Сакольшчыне мешанае асяроддзе. „Сакольшчына — такі раён, у якім спакон вякоў супольна жывуць беларусы і палякі, праваслаўныя і каталікі. І жывуць яны мірна і дружна. У такім мешаным асяроддзі патрабуецца ад раённага праўлення, якое сёння выбярэцца, дзеяння развàжнага, умелага, яднаючага, выступаючага (калі будзе гэта здарацца) супраць сеўцаў нацыянальнай і рэлігійнай нязгоды, бо яны ў аднолькавай меры з'яўляюцца ворагамі і беларусаў і палякаў".

Пасля даклада пачалася дыскусія. Першым быў Аляксандр Шчэбёт, які ўзняў пытанне, чаму адсутнічае беларуская мова ў школах на Сакольшчыне, калі раней навучалася яна ў 26 мясцовасцях. „Гэта не толькі віна бацькоў, — даказваў ён, — гэта таксама віна асветных улад. Раней настаўнікі і прадстаўнікі школьных інспектаратаў настойліва дамагаліся, каб бацькі пасылалі сваіх дзяцей на ўрокі бела-

(Працяг на стар. 2)

БЕЛАРУСКІЯ ЛЮДЗІ

## СЛЕДАМ ШЧЫРАГА ЛІСТА

Пасля адной сустрэчы ў беларускім клубе ў Бельску я атрымала ліст ад незнаёмай. Потым быў другі ліст і трэці. У міжчасе я аднак пазнаёмілася асабіста з яго аўтарам — Люсяй Анхім, вучаніцай чацвертага класа Беларускага ліцэя ў Бельску.

Дзяўчына прыйшлася мне вельмі па душы. Цікавы, унутрана багаты тып маладой беларускі.

Рашыла я напісаць, можа, не столькі пра дзяўчыну, колькі пра яе лёс, яе падыход да жыцця, пра яе спосаб успрымання нашага цяперашняга свету ў абставінах асабістай драмы, цяжкой хваробы, аб якой дзяўчына ведае і з якой змагаецца дасдоўна кожны дзень, уколваючы (сама сабе) 2 разы ў дзень інсулін.

І падумалася мне, што найлепш гэта будзе зрабіць з дапамогай яе шчырага лісту, слоў, ёю ж напісаных, не прыватнай асобе, а журналісту беларускай газеты, якую Люся чытае і любіць.

„Пішу вам пісьмо, можа мне будзе лягчэй ісці праз жыццё, маё жыццё — цяжкое і смутнае.

На сустрэчы ў беларускім клубе вы казалі, што калі хто хоча, можа пісаць да вас. Я і рашыла гэта зрабіць. Можа, мая асоба вас не будзе цікавіць, аднак пісьмо прачытайце. Цяпер крыху аб сабе. З'яўляюся вучаніцай 4 „б" класа Беларускага ліцэя ў Бельску. Вучуся — от, сярэдне, можна сказаць, на тройкі. Чаму толькі на тройкі? Мне здаецца, гэта віна трохі мая і таксама маёй хваробы — я хварэю на „цукрыцу". Не ведаю, ці ведаеце вы, што гэта за хвароба, скажу толькі адно — нецікавая.

Адно мяне ў жыцці радуе, гэта тое, што я беларуска і што магу гэтым ганарыцца. Калі я была малая, не здавала сабе з гэтага і справы. Цяпер усё зразумела і шкадую толькі аднаго, што я і ў анкеце на „довуд асабісты" напісала — полька. Неяк так выйшла.

...Прашу вас, прачытайце мае вершы, якія я вам пасылаю і, калі ласка, дайце адказ, чаго яны варты. Буду вельмі рада, калі мне адпішаце, нават тады, калі адказ будзе невясёлы..."

Пра свае адносіны да ліцэя і настаўнікаў Люся напісала не-

(Працяг на стар. 7)

НА МЯЖЫ

# АБ АКІЯНЕ

Для нас, людзей далін, якія ніякім сваім краем не дакранаюцца да вялікай вады, сутыкненне з морам з'яўляецца асаблівай падзеяй, якая надоўга завалодвае нашым сэрцам. А што ж гаварыць аб акіяне, у параўнанні з якім нейкае там Балтыйскае мора гэта свайго роду капанька з мізэрненькай колькасцю брудный вадзіцы!..

Прабываючы ў Амерыцы, я першы і, як дагэтуль, апошні раз у жыцці сутыкнуўся з адным з найбольшых вадаёмаў на зямным шары — Атлантычным акіянам. Не ведаю чаму, але нягледзячы на тое, што ад таго моманту мінула тры гады, ніяк не магу поўнасцю вызваліцца ад таго чарадзейскага зняволення, якое накідае чалавеку акіян. Пазнаў я Атлантычны акіян дзякуючы пану Валодзю, які вазіў мяне да яго разы чатыры або і болей. Мой кантакт з Атлантыкай меў двакі характар. З аднаго боку, я сутыкнуўся з акіянам адкрытым, дзікім і неўгамонным у вечных атаках на бераг. З другога боку, пабываў над залівам, дзе акіян, замкнуты недаступнымі для вока далёкімі берагамі, спакойны, з вечным інтымным шэптам, з маладой і цёплай гармоніяй сваёй дабразычлівасці і ласкі.

Першы раз пан Валодзя прывёз мяне на бераг Атлантыкі вечарам. Зняўшы боты, я доўга ішоў па беразе ў тым месцы, дзе хваля адвечна атакуе бераг, кідаючыся на твае ногі і адплываючы назад. Цікава так ісці па выкінутых вадой водарасцях, каменьчыках і маленькіх рачках ды крабіках, якія знайшлі на берагавым пяску смерць.

Пасля яшчэ не раз бачыў я акіян, прабываючы над ім у натоўпе або толькі з панам Валодзем. Калі хочаш пабачыць усё хараство акіяна, мусіш быць з ім сам насам. Толькі тады можаш пабачыць яго непаўторнае хараство і адчуць яго магічную ўласцівасць.

Якія ж родзяцца ў табе дзівосныя ўражанні, калі бачыш, што акіян, як дзікі звер з дынамікай ажыўленых мільярдаў тон вады кідаецца са страшэнным рыкам на цябе і каля тваіх ног трацiць раптоўна сваю магутнасць, бездапаможна, па-рабску ліжа твае ступні і з бяссільным шэптам рэзыгнацыі адкатваецца назад з той мэтай, каб на працягу некалькіх дзесяткаў секунд набраць дзікай сілы і зноў кінуцца на цябе і зноў адкаціцца ў знямозе і абяссіленні.

Ідучы так па беразе і адбіваючы слабымі ступнямі магутнасць Атлантыкі, здавалася мне, што ў той вадзе, якая залівае мае ногі, чую кропелькі вады з маёй роднай Нарвы, якая ад вякоў коціць свае сціплыя воды ў мора і акіян.

А якая ж раскоша прайсці над гарманійным спакойным залівам

(Працяг на стар. 7)

# РАЁННАЕ ПРАЎЛЕННЕ БГКТ У САКОЛЦЫ

(Працяг са стар. 1)

рускай мовы. Цяпер гэтага няма, цяпер ніхто апрача БГКТ не цікавіцца гэтым пытаннем". Аляксандр Шчэбёт многа ўвагі прысвяціў „Ніве", сцвярджаючы, што ў ёй змяшчаюцца публікацыі на розныя тэмы і кожны яе чытач знаходзіць цікавячыя яго артыкулы. „Я на „Ніве" навучыўся чытаць па-беларуску", — сцвердзіў ён.

Далей выступіў Анатоль Шагаловіч, які звярнуў увагу на тое, што гурткам БГКТ трэба арганізоўваць і сустрэчы з дзеячамі БГКТ і экскурсіі, а ўжо вельмі мабілізуючымі дзейнасць гурткоў былі б выезды ў прыгранічныя мясцовасці Савецкай Беларусі.

Гэтую думку Анатоля Шагаловіча падтрымаў Віктар Качан. „Выезды, хаця б на адзін дзень, у прыгранічныя раёны БССР надта спрыялі б умацаванню дружбы і актывізацыі дзейнасці гурткоў БГКТ". Віктар Качан прапанаваў наладжваць экскурсіі ў Бельск, Гайнаўку, Белавежу. Звярнуў таксама ўвагу на якасць выступленняў, якія адбываюцца на сцэне Сакольскага дома культуры". Прыязджаюць артысты з вельмі мізэрным майстэрствам. Нядаўна па трыста злотых плацілі сакалчане за выступленне артыстаў эстрады і не было чаго слухаць і глядзець, проста тыя „адвалілі" выступленне і паехалі. А калі выступаў у нас беларускі харавы калектыў з Бельска „Васілёчкі", дык гэта было „штосьці"... высокі мастацкі ўзровень, прыгажосць, а білеты былі толькі па 120 злотых. Але цяжка было іх прадаць усе і нават былі клопаты з вывескай рэкламнай афішы.

Мар'ян Бізюк, намеснік начальніка Гмінна-гарадской управы ў Саколцы, выказаў задавальненне з прычыны стварэння ў Саколцы раённага праўлення БГКТ, якое адыграе немалую ролю ў інтэграцыі грамадства Сакольшчыны. Падкрэсліў ён, што Сакольшчына вельмі талеранцыйная, што згодна жывуць тут палякі, беларусы і татары і што ўсе жыхары добра разумеюць і беларускую і польскую мову. „Што датычыць навучання беларускай мовы, дык трэба ёй навучаць дзяцей не толькі ў вёсках, але таксама і ў горадзе Саколцы. Хутка пабудуецца ў нас вялікая школа з 24 класамі і будуць тады ўсе магчымасці, каб навучаць у ёй і беларускай мове." Сцвердзіў ён, што ўзніклі вялікія цяжкасці са стварэннем харавога калектыву, які б мог бы спяваць не толькі польскія, але і беларускія песні.

Януш Бубій, старшыня гмінна-гарадскога ўпраўлення ТППР у Саколцы, заахвочваў арганізаваць супольна агляды песні савецкай і беларускай, а таксама супольна арганізоўваць некаторыя мерапрыемствы. „Экскурсіі ў СССР наладжвае цяпер толькі ТППР і ў будучыні мы будзем прадбачваць удзел у гэтых экскурсіях і актывістаў БГКТ".

Наступным пунктам павесткі для канферэнцыі былі выбары. Выбарная камісія запрапанавала раённае праўленне з 15 асоб, а рэвізійную камісію з 3 асоб. Прысутныя выбралі запрапанаваны склад раённых улад БГКТ.

Тут жа і адбыўся першы арганізацыйны пленум праўлення. Выбраў ён склад прэзідыума раённага праўлення: Мікалай Байгус — старшыня, Сяргей Крыпань — намеснік старшыні. Аляксандр Рафаловіч — сакратар, Аляксандр Юргель — скарбнік, Кастусь Моцька, Анатоль Шагаловіч і Аляксандр Тур — члены прэзідыума.

Рэвізійную камісію ўзначаліў Юрка Малеша.

Затым канферэнцыя працягвалася далей. Удзельнікі прынялі праграму — план дзеяння на гады 1985-88, якую падрыхтавала камісія прапаноў. У гэтым дакуменце гаворыцца: прэзідыум праўлення павінен 3 разы ў год наладжваць спатканні са старшынямі гурткоў павінен накіроўваць намаганні на разбудову арганізацыі, на атрыманне адпаведнага памяшкання для БГКТ у Саколцы, на супрацоўніцтва з ГОКамі і раённым Домам культуры, на павелічэнне колькасці ўдзельнікаў у конкурсах на беларускую і савецкую песні, на павелічэнне колькасці падпісчыкаў „Нівы", на распаўсюджванне кніжных выданняў ГП, на сустрэчы з беларускімі літаратарамі і журналістамі „Нівы", на арганізаванне штогод народнага фэсту, на належную апеку над Пакоямі памяці Сяргея Прытыцкага ў Гаркавічах і Саколцы.

На заканчэнне канферэнцыі ўдзельнікі яе выслухалі падсумоўваючую прамову Янкі Зенюка, які падкрэсліў, што не толькі БГКТ, але і мясцовыя ўлады маюць абавязак займацца культурна-асветнымі і грамадскімі справамі беларусаў, маюць абавязак улічваць у сваёй працы нацыянальную спецыфіку беларускага насельніцтва.

Выказаў ён таксама перакананне ў тым, што выбранае раённае праўленне БГКТ у Саколцы будзе спрыяць адраджэнню дзейнасці БГКТ на Сакольшчыне.

**Міхась Сваяк**




## СПОРТ

■ Серыю таварыскіх сустрэч правялі баксёры Савецкага Саюза са зборнай ЗША.

У першым паядынку, які завяршыўся ўнічыю — 6:6, Вячаслаў Яноўскі з Віцебска ў вагавай катэгорыі да 63,5 кілаграма перамог Элвіса Йера. Баксёр з Беларусі ў гэтай сустрэчы быў прызнаны лепшым у камандзе СССР. Ён атрымаў спецыяльны прыз.

■ У басейне „Алімпійскі" завяршыліся ўсесаюзныя спаборніцтвы па фігурнаму катанню на водных лыжах.

Беларускія спартсмены Вольга Паўлава і Аляксандр Міянок заваявалі сярэбраныя ўзнагароды.

■ Добра выступіла каманда Беларусі на трэціх Усесаюзных зімніх сельскіх спартыўных гульнях.

Асабліва вызначыліся біятланісты. Галіна Лектарава заняла два першыя месцы на дыстанцыях 8 і 5 кіламетраў. Ігар Літвінскі — бронзавы прызёр.

**Залатыя і бронзавыя медалі — у беларускага лыжніка Генадзія Січкара.**

■ На лёгкаатлетычных спаборніцтвах на прызы газеты „Известия", якія прайшлі ў Ленінградзе, першае месца заняў гамяльчанін Уладзіслаў Патапенка ў скачках у даўжыню.

Другія месцы на дыстанцыі 60 метраў з бар'ерамі і 200 метраў дасталіся мінчаніну Ігару Казанаву.

■ На ўсесаюзным турніры па бадмінтону памяці выдатнага партызана і дзяржаўнага дзеяча А. Мяснікова па два першыя месцы занялі беларускія спартсмены Анатоль Скрыпко і Святлана Бялясава.

■ Дзесяцікласнік мінскай школы № 103 Барыс Гельфанд перамог на юнацкім першынстве краіны па шахматах. У адзінаццаці партыях ён набраў дзевяць ачкоў.

■ Савецкія гандбалісты выйшлі пераможцамі міжнароднага турніру „Кубак Балтыкі".

У рашаючым паядынку яны выйгралі ў першай каманды Польшчы: 25:24. За зборную СССР добра гулялі мінчане Юрый Шаўцоў і Аляксандр Каршакевіч.

■ Усесаюзныя спаборніцтвы па скачках у ваду прайшлі ў Мінску. У ліку пераможцаў мінчане Аляксандр Партноў, Вольга Хінко, Анжэла Стасюлевіч, Ірына Сідарава, Аляксандр Гладчанка, Святлана Аляксеева і Андрэй Квачынскі.



Лыжны спорт у Беларусі развіваецца паспяхова. Фота У. Казлова.

# БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

Ужо прадстаўленыя намі факты, звязаныя з цяжарнасцю жанчыны, нараджэннем дзіцяці і хрысцінамі, сведчаць аб тым, што радзільна-хрысцінная абраднасць і фальклор ствараюць мазаікавую карціну з разнароднымі матывамі, ідэямі і імкненнямі. Гэтая разнароднасць не абазначае, што маем тут дачыненне з выпадкова падабранымі элементамі. Усё ў гэтай карціне прадумана і ўсё мэтанакіравана. У істоце ўсе захады, усе мерапрыемствы і ўсе дзеянні ў радзільна-хрысціннай абраднасці служылі адной мэце — шчасліваму нараджэнню дзіцяці і яго шчасліваму лёсу. Забеспячэнне гэтай шчаслівасці гарантавалася ўсімі тымі мерапрыемствамі, якія мы ў першых адрэзках нашай працы назвалі кодэксам народнай маралі.

Комплекс мерапрыемстваў, звязаных з цяжарнасцю і нараджэннем дзіцяці, а таксама з хрысцінамі, сведчыць аб тым, што радзільна-хрысцінны рытуал сваім характарам выходзіць далёка па-за межы хрысціянскіх норм і догмаў. Многае ў ім выводзіцца з дахрысціянскай язычаскай эпохі, з той ранняй пары разумовага развіцця нашых продкаў, калі ўся духоўная субстанцыя чалавека абапіралася на перакананні ў тым, што сам спосаб мыслення і асабліва слоўнага выказвання мае рашаючы ўплыў і на цяжарную жанчыну, і на яе плод, і на нованароджанае дзіця. Звязана гэта, несумненна, з першабытнай верай нашых продкаў у магічную сілу думкі, і асабліва слова. Вера ў тое, што слова можа матэрыялізавацца, стацца фактам, зрэалізавацца і спаўніцца, у радзільна-хрысціннай абраднасці і фальклоры, праяўляецца на кожным кроку. Другім істотным элементам гэтай абраднасці было перакананне ў добрае, але найчасцей дрэннае ўздзеянне чалавечага позірку, вачэй. Можам гаварыць аб татальнай боязні і СЛОВА, і ВАЧЭЙ, якія ў народным перакананні маглі прынесці разнародныя шкоды маці-парадусе і асабліва дзіцяці. Такія недамогі дзіцяці, як плач, бяссонніца, усе хваробы, слабы рост, спозненая гаворка, бацькі дзіцяці былі схільны тлумачыць урокамі, якія паходзілі з чалавечых вачэй або слоў. Амаль у кожнай мясцовасці вясковая грамадскасць выдзяляла некалькі асоб, якія лічыліся людзьмі з асабліва шкоднымі вачыма. Рабіліся розныя намаганні, каб не дапусціць дзіця да кантакту з імі.

Цікава тое, што шкодную слоўную магію вясковае асяроддзе старалася знейтралізаваць ізноў жа пры дапамозе слоўнай магіі. Праяўлялася гэта ў тым, што маці нованароджанага, пачуўшы такія ці іншыя словы ў адрас свайго дзіцяці, якія, на яе думку, маглі яму пашкодзіць, гэтую ж шкоднасць стараліся ліквідаваць пры дапамозе слоўнай формулы: „Соль табе ў вочы і дзяркач у зубы“. І так слова кіравалася супраць слова. Зразумела, што і ўся, так моцна распаўсюджаная сістэма замоў абапіралася на той жа веры ў цудадзейны ўплыў слова на рэчаіснасць.

Вядома, што ў ніякім выпадку нельга ўсю радзільна-хрысцінную абраднасць зводзіць да язычаскіх першабытных уяўленняў. Хрысціянская эпоха ў гэтай справе сказала сваё акрэсленае слова. Праявілася яно не толькі ў самым акце царкоўнага хрысту, але і ў перакананні, што ахрышчанае дзіця як бы забяспечана ад уплыву з боку злога, у тым ліку і ад злых вачэй і слоў. Сярод іншых дзеянняў над калыскай вялікую ролю пачынае спаўняць хрысціянская малітва, як панацэя і на здароўе, і на шчасце. Калі аднак разабрацца, дык і малітва вырасла з першабытнай веры ў магічную сілу слова.

А. Баршчэўскі

## СУСТРЭЧА Ў ВК ПАРП

6 лютага адбылася сустрэча сакратарыята Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку з кіраўніцтвам ГП БГКТ.

Было сцверджана, што далей з'яўляецца актуальным партыйны дакумент сакратарыята КВ ПАРП і кіраўніцтва ГП, супольна прыняты 18 лістапада 1982 года, а таксама быў абмеркаваны ход выканання паасобных яго ўстановак.

Апрача таго, закрануты былі справы прыгранічнага абмена, справы набліжаючыхся выбараў у Сейм, бягучыя культурна-асветныя і арганізацыйныя справы БГКТ.

У сустрэчы ўдзельнічаў таксама дырэктар аддзела культуры і мастацтва Ваяводскай управы Ян Трахімяк. (мс)



Бельскі краязнаўчы музей. Ручнікі з горада Бельска Падляшскага, першая палова XX стагоддзя. Фота М. Гайдука.

# СВАЯКІ

I

Вяселле, вяселле, грыміць „рок“ з „рамізы“, рэха нясецца над Супраслю-ракой. Наз'язджалася сваякоў з усяе Польшчы, мястэчка святкуе. Мароз аж звініць, а па вуліцы ходзяць, узяўшыся пад рукі, вясёлыя, расчырванелыя ад гарэлкі хлопцы ў пінжаках з кветачкай.

Спяваюць госці, цешацца. Па дваццаць гадоў не бачыліся. І каго тут няма! Ёсць і „мазур з Мазураў“, гаворыць з намі „панашаму“, быццам і радзіўся тут. Прыехаў таксама і брат.

— Ты, брат, чаму ты „па-просту“ гаварыць не хочаш? Ты што, вырадзіўся, спанеў, усе мы сваякі, усе па-беларуску... Гэты мазур не наш, а як наш!

— Będę mówił tak, jak zechcę!

Не падабаецца яму „халопская“ мова, па-панску размаўляе нават са старэнькімі бацькамі, ды як слоўца такое закіне, такое „адэкватнае“!

II

— Ведаеце, я сваю мову забыўся, „простую“, нашу беларускую. Значыцца, па-свойму дагаваруся, ды літаратурнай не ведаю. „Ніву“ чытаю, бо яна аб нашых справах гаворыць, але гэта мала. Нашы людзі не чытаюць беларускіх кніжак, ды што беларускіх, увогуле мала чытаюць. Людзі ад кніжак адсунуліся, вочы выраўнілі ў тэлевізар. А тэлевізар уніфікуе — значыцца... раўняе, бы той дарожны каток. І людзі пачынаюць думаць аднолькава. Наглядзяцца на амерыканскія, французскія, аўстралійскія, польскія фільмы, фестывалі, спорты ўсялякія, і вочы аднолькавыя робяцца, аднолькавыя думкі... А чалавек павінен захоўваць... культываваць сваю культуру, сваю своеасаблівасць — сваю і свайго народа, не адгрызацца ад уласных карэнняў. Якая будучыня чакае нас і нашых унукаў, патомкаў вялікіх твараў нашай гісторыі і культуры? Не можам жа стацца, бы тыя камені ў полі, якім усё роўна, хто іх варочае — саха, ці жалезны плуг, а самі — нічога...!

III

— Культура ў нас? У нас культура гэта пані Мушынская і яе дзяўчаты. Дом культуры? Ну, стаіць япчэ і доўга будзе. Пахваліцца можна, прыгожы. Загуляць тут можна, кніжку ўзяць, паглядзець фільм. Быў час, калі тут круцілася многа дзетвары, рысавалі, спявалі, танцавалі, цяжка іх было выгнаць дахаты... Дом культуры калісь-

(Працяг на стар. 4)

## РУДНІЦКІ ПРА НАС

# БЕЛАРУС НА СЛУЖБЕ

Кракаўскае літаратурнае выдавецтва выпусціла ў свет першы том выбраных твораў вядомага польскага пісьменніка Адольфа Рудніцкага, „Сто адзін“*). Змешчаны ў ім апавяданні і навелы. Выклікаюць нашу ўвагу такія рэчы, як: Pusty krąg Białorusina Wacława Prudnikiewicza, Najnieufniejszy, „Chaziaje” i Żydzi, Piękny złą pięknością Bałorusin Antoni Piotrowicz, Lud, Abramowicz. Гэта апавяданні пра беларусаў, напісаныя ў выглядзе ўспамінаў з армейскай службы ў часы Другой Рэчыпаспалітай, — як можна здагадвацца, — у трыццатыя гады. Чытаючы іх, неяк аўтаматычна верыш ім. Таму так, бо памятаеш, што расказваў табе твой бацька і суседзі, калі парабілі іх калісьці ўланамі, кананьерамі, жаўнерамі...

Гэта — пра нашых бацькоў, апавяданні пра дзядоў нашых дарастаючым дзецям. Як зазвычай у Рудніцкага, у іх няма вытанчанай мастацкасці вобразаў, затое ёсць нешта, мабыць, важнейшае: дакладнасць у назіранні за чалавекам, цэльнасць у гэтай дакладнасці ягонай. Падумаеш: псіхалогія народу вельмі ж павольна змяняецца, калі апісанае Рудніцкім ва ўсім актуальнае ёсць і сёння, праз паўвеку Я маю на ўвеце нашу, беларускую псіхіку, наш нацыянальны нораў.

*„Ужо ў самы пачатак службы капрал Пруднікевіч закасаваў усіх нашых капралаў“*, — такімі словамі пачынае аднайменнае апавяданне Адольф Рудніцкі. Яго герой гэта бядак, які дапаў да шчасця пабыць падпанкам, пакамандаваць удосталь, перажыць узвышэнне на падлыжніка пана паручніка, чыста пахадзіць і па-людску паесці. Натура раба і замораніка даводзіць яго да тых крайнасцяў, што нават таму паручніку Заберу робіцца гідка ад тае Пруднікевічавай паслужлівасці, і капітану Кайзеру таксама.

Усяму свая мера. Лізунства, бы залішне салодкі чай, ад якога бярэ на наваніты! Добра, што Пруднікевіч усё-такі агледзеўся адзінокім сярод людзей. І малапамалу вярнуўся ён назад, да тых, ад якіх адыйшоў быў ды пагарджаў імі, — да зямляцкіх салдатаў-беларусаў. Але гэтага, як быццам, ніхто і не прыкмеціў — напісаў у заканчэнні аўтар. Быў тым, хто ўжо раз прадаўся.

Побач з комплексам гаротнасці ў нашым беларускім характары Адольф Рудніцкі, разумеючы нашу сацыяльную гісторыю наша паншчыннае мінулае, — трапна намаляваў сялянскую зацятасць, увасобленую ў постаць Антона Пятровіча. Ад нейкага даволі бязвіннага салдацкага інцыдэнту ўзнікае ў артылерыста Пятровіча злосць, як гавораць, *„на аднаго“*, які яму не спадабаўся. Не спадабаўся, і ўсё! З часам гэтая злосць ператвараецца ў яўнае варагаванне, а з варагавання, калі яно лоўгае, вырастае нянавісць. І як гэта на вёсцы бывае — забываюцца канкрэт-

(Працяг на стар. 6)




# ПРА БОСКІ НЕКТАР

З зёлкамі я ўжо знаёмы даўно і сёе-тое выпрабаваў на сабе, і калі толькі ў „Ніве“ з'явілася рубрыка Б. Паскробкі „Таямніцы вакол нас“, я чытаю яе з цікавасцю.

У № 5 „Нівы“ гр. Паскробка піша пра лячэнне мёдам. Як былы пчаляр і я хачу выказацца на гэту тэму. Хоць не меў я вялікай пасекі, але пчолак пазнаў добра і палюбіў іх. Пчала сапраўды цікавае стварэнне. Хоць яна, раззлаваўшыся, цябе і ўкусіць, не крыўдуйся, яна гэтым ужо палячыла.

Веру, што пчаліны мёд гэта лякарства, але які мёд? Яшчэ не так даўно, гадоў 30-40 назад, сялянскія пасевы поўніліся пустазеллем, а найурадлівай была рэдзька. Яе ніхто не сеяў, а яна адкульсці бралася. Рэдзька рана квітнела і пчолкі тут „бушавалі“. Потым квітнелі сады, ранняя грэчка, ліпа, акацыя, верас, і амаль да першых маразоў пчала мела чым у полі пажывіцца. А пчолка стварэнне працавітае, пры спрыяльных умовах магла назбіраць пчаляру многа мёду, бо ёй самой на зіму многа не трэба.

Я слабы пчаляр, мёд выкручваў адзін раз у канцы лета і яшчэ пчолы да зімы патрапілі назбіраць сабе мёду на зіму. Мёд мой быў янтарнага колеру. па 4-5 тыднях сцукроўваўся і, калі яго калупнеш нажом, меў выгляд грубай рыбяй ікры, а смак салодкі, чуць-чуць гаркаваты.

Такое традыцыйнае пчалярства трывала дагэтуль, пакуль агратэхніка дала селяніну радыкальныя сродкі для барацьбы з пустазеллем у выглядзе розных азатоксаў, хвастоксаў, трытоксаў, галоўным кампанентам якіх была моцная атрута ДДТ. Гэта быў пачатак канца добрай гадоўлі пчолаў і сёння, калі б пчалу інтэнсіўна не кармілі цукровым сіропам, то яна даўно ўжо звялася б, асталася б толькі аб пчолах і пчалярстве памяць. Кожны сучасны пчаляр ведае добра якасць свайго мёду: у ім многа цукру. Сённяшні мёд — гэта цукар, прапушчаны праз нутро пчалы, крыху перамешаны з нектарам кветак. Не пярэчу, што і гэты мёд мае лекавыя якасці, але мае ён долю ДДТ. Каб Авіцэна скаштаваў яго, то не захапляўся б так яго лячэбнымі ўласцівасцямі.

Заглянуўшы думкамі ў мінулыя часы, можам толькі глытаць слінку. У той час гэта быў сапраўды боскі нектар.

Дзед Кастусь



Дарожныя партрэты. Дзяўчына з Міхалова.
Фота М. Гайдука.

Карэспандэнцыя з Беларусі

# АЛЕСЬ БАРСКІ Ў БЕЛАРУСКІХ ВЫДАННЯХ

На кніжных паліцах з'явіўся чарговы альманах „Дзень паэзіі-84“. Рэдакцыйную калегію яго склалі такія вядомыя паэты, як Рыгор Барадулін, Анатоль Вялюгін, Навум Кіслік, Алег Лойка, Яўген Міклашэўскі, Пімен Панчанка, Міхась Стральцоў. Укладальнікам альманаха з'яўляецца Казімір Камейша. Галоўны рэдактар — Яўгенія Янішчыц. Альманах складаецца з традыцыйных раздзелаў „Новыя вершы“, „Пра паэтаў і паэзію“, „З літаратурнай спадчыны“ і „Па дарозе на Парнас“.

Цешыць, што ёсць тут вялікая, як на такое выданне, дзе змешчаны творы больш як ста паэтаў, нізка вершаў і Алеся Барскага. На трох старонках змешчана пяць вершаў.

У тым жа выдавецтве „Мастацкая літаратура“ не так даўно выйшаў з друку зборнік нарысаў і публіцыстыкі „Сучаснік-83“. Тут змешчаны нарысы беларускіх пісьменнікаў і журналістаў, а таксама вершы і фотарэпартаж. Пад рубрыкай „З-за мяжы“ Уладзімір Паўлаў надрукаваў свой нарыс „Між Бугам і Одрай“. Па запрашэнню Таварыства польска-савецкай дружбы дэлегацыя Саюза пісьменнікаў СССР гасціла на польскай зямлі. У склад дэлегацыі ўваходзілі маскоўская паэтэса Ларыса Васільева, з Беларусі — Анатоль Вярцінскі, Алег Салтук і аўтар нарыса — Уладзімір Паўлаў. Кілька цёплых радкоў у гэтым нарысе прысвечана паэту Алесю Барскаму. Навукова-літаратурная група ў складзе Алега Лойкі, Уладзіміра Казберука і Льва Шакуна вярнулася з Беласточчыны, дзе акрамя іншай работы, вяла сустрэчы, прысвечаныя стагоддзю Янкі Купалы і Якуба Коласа. Алесь Барскі суправаджаў іх па роднаму краю. Цяпер абедзве групы сустрэліся ў Варшаве.

Уладзімір Малашкевіч

# СВАЯКІ

(Працяг са стар. 3)

ці быў „адкрыты“ часцей, можна было пасядзець, паслухаць музыку, пагуляць. А цяпер што? Ды гэта таксама віна людзей. Каб знайшліся такія, што схацелі б паварушыць трошкі галавою, рукамі — а не толькі браць гатовенькае... Але як трапіцца такі чалавек, то ён увойдзе хутчэй у прыказку, як Ясько Актывіст ці Геня В.; заглумяць яго ды з балотам змяшаюць хутчэй, чым памогуць... Хто?..

IV

— Яны ўсе аб'яднаны, глянь, ледзь на ножках трымаюцца, а ходзяць ад сцяны да сцяны ў танцы-задрыпанцы. А ім усё роўна, хто яны, абы да іх занадта не чапляцца. Модныя „панкі“, то хоць адзін шпільку ў нос ці ў вуха ўваб'е, валасы на бялок ці цукар патапырыць. Мала каторага цікавіць, якая філасофія, прынцыпы „панкоў“, і такі мястэчкова-гмінны нігіліст можа толькі да смеху давясці... Ды і не да смеху тут нам. Што гаварыць вялікім словам аб вялікіх справах. Нікнем мы, распаўзаемся ў абыякавасці, нібы-еўрапейскасці, сарамлівай беластоцкасці, а кожны глядзіць, каб табе тваю світку з гарба не сцягнулі, ды гарба твайго закарэлага не ўбачылі!

V

Грыміць забава. Дым і шкло. Лясь — дзверы адчыніліся. Дзяўчына на парозе, не наша, у сукенцы-міні, коскі дыбам, і хлопец з нашай гміны, вясёленькі. Глянула дзяўчына ад дзвярэй на вялікі партрэт Кастуся і кажа:

— А што тут за ён вісіць так крыва?

Партрэт як партрэт, крыва як крыва, якісь п'яны дзебануў быў яму ў руку, і свеціць Кастусь ранай, як са святой іконы.

Гляне, бывала, Дамань, сляза яму скупая блісне ў вачах, і скажа: „Кастусь, эх Кастусь, што тут з намі стала“. І папраўіць абраз, сатрэ пыл з рамаў.

І глядзіць Кастусь бясстрасна, як нашыя людзі сабе жывуць-пажываюць, гора не знаюць.

Міра Лукша

ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

# МАРЫЯ

Дзень быў асенні. Скрозь густы туман я спяшалася на работу. Пакуль папрыходзяць лекары, ужо трэба са старшай сястрою абыйсці палаты, прабегчы вачыма работу санітарак, парадак па тумбачках агледзець, выслухаць патрэбы хворых. У тэрапеўтычнай палаце мужчынаў я заўважыла адразу новага хворага. Трудна было разабрацца, хто ён і які, бо твар быў забінтаваны, рукі таксама ляжалі на коўдры, як два белыя клуначкі, а адна нага вісела на выцяжэнні. Ноччу дзяжурыў мой муж і вось ён, са скорай дапамогай, падабраў на шашы дзяцюка-мотацыкліста, маладога кінамеханіка. Усё прасіўся, казаў муж: „Дабеця мяне, трудненька, дабеця“... Дзяцюка прывезлі і хірург меў з ім даволі працы, пакуль да сякога-такога парадку прывёў яго паламаныя чалясы і пабітае цела.

Хлапец труднаваў моўчкі, а цяжка яму было сапраўды, ды невялікая была надзея на ягоную паправу. Лекарскі догляд, аднак, быў добры, персанал, які яго абслугоўваў, глядзеў яго яшчэ лепш, а да таго шчодра памагала яго арганізму і спрыяла выздараўленню ягоная жыццедайная маладосць. Хлапец ачуняў, і хутка з-пад снегабелых бінтоў пачалі смяяцца чорныя, як вуголле, вочы і круглы румяны твар. Міхася Ламеку, так называўся хлопец, усе вельмі любілі. За вакном часта збіралася безліч яго сяброў, якія гоманам напаўнялі палату, а яго тумбачку рознымі прысмакамі.
— Будзе з бабы дзеўка, — казалі мы яму ўсе, вельмі радыя з яго папраўы. Паклічаш яшчэ нас на вяселле, часта жартавала я, папраўляючы яму падушку.

А тым часам прыходзіла да яго старэнькая маці-ўдава, дробненькая, ціхая і вельмі сардэчная. Аднойчы ў халодны вечар, калі я ўжо з працы прыйшла дамоў, яна пастукала да нас у хату. Нікога не было дома, у печцы патрэскваў весела агонь, мы з ёю пілі гарбату і яна мне расказала пра сыноў. Іх чатыры і ўсе па свеце, а адзін дык на моры плавае. Выгадавала іх сама, бо мужык ужо даўно памёр. А дачушка адна ўсяго — Марыя, наймалодшая з усіх. Ходзіць яшчэ ў школу і хораша вышывае абразочкі на сцяну. Пры ўспаміне дачкі, вочы жанчыны выразна пацяплелі і нават голас зрабіўся ласкавейшы. Сэрца яе перапоўнілася пачуццём і яна расказала мне гісторыю сваёй наймалодшай.

Некалі была ў яе харошая, каханая дачушка, была старэйшай за хлопцаў і вельмі працавітай і сардэчнай да ўсіх. Бывала, вучыць хлопцаў вершаў, бае ім вечарамі байкі, а маці ўсё памагае рабіць, усё ўмее, усё можа. Яе звалі Марыяй. Усіх яна шкадавала, ды памагала кожнаму чым магла. Адной раніцай, а было росна-росна, трэба было выгнаць на пашу карову, пасвілі яны яе звычайна ля чыгункі. Пашкадавала Марыечка сваіх маленькіх братоў і, узяўшы торбачку, сама маленькая, дзесяцігадовая, пагнала тую карову на пашу, Шчодрая звычайна трава ля палатна чыгункі і карова ходзіць спакойна, а вакол кветкі, вецярок павявае, і так лёгка і так весела, што дзяўчынцы захацелася запяяць, закружыцца. Ускочыла дзяўчо на пянёк і як юла, як маленькая німфа-русалачка, завінулася разам з ветрам лёгка перабіраючы тонкімі ножкамі на пяньку. Дзяўчынка бачыла неба з белымі баранчыкамі хмар і зялёнае голле дрэў і толькі не бачыла немца ля чы-

# ХТО АХВОТНЫ Ў ВАЕННУЮ ШКОЛУ?

Войска актыўна ўдзельнічае ў працэсе фармавання маладога пакалення. Шмат выпускнікоў сярэдніх і прафесіянальных школ атрымала магчымасць вучыцца далей і развіваць свае зацікаўленні ў ваенных школах. Ваенныя школы і акадэміі рыхтуюць спецыялістаў у розных галінах, між іншым, інжынераў, тэхнікаў, лекараў і эканамістаў.

У час некалькігадовага навучання слухачы здабываюць веды ў галіне ваенных навук, арганізацыі і камандавання, а таксама па эксплуатацыі і направе машын. Навучанне ахоплівае таксама агульнаадукацыйныя, грамадска-палітычныя прадметы і замежныя мовы.

Цяпер вядзецца набор кандыдатаў на 1985/1986 навучальны год у Ваенную тэхнічную акадэмію (ВАТ), Ваенную медыцынскую акадэмію (ВАМ), Вышэйшую школу ваенна-марскога флоту (ВСМВ) і вышэйшыя школы афіцэрскіх войск — механізаваных, танкавых, ракетных і артылерыі, супрацьпаветранай абароны, сувязі, радыётэхнічных, авіяцыі, самаходных, хімічных, інжынерскіх, а таксама інтэндэнцыйных служб.

У ВАТ-е навучанне працягваецца 5 год, у ВАМ-е на лекарскім напрамку — 6, стаматалагічным і фармацэўтычным — 5 год, у ВСМВ — 5 год, у вышэйшых афіцэрскіх школах — 4 гады.

Выпускнікі ваенных акадэмій і вышэйшых афіцэрскіх школ атрымліваюць ранг падпаручніка і дыплом заканчэння вышэйшай школы са званнем магістра інжынера, лекара, стаматолага, магістра фармацыі, інжынера-камандзіра адпаведнай ваеннай спецыяльнасці.

Апрача таго, у васьмі ваенных вышэйшых школах вядзецца навучанне ў ваенна-палітычным напрамку. Выпускнікі гэтых школ атрымліваюць дыпломы заканчэння вышэйшай школы ў галіне грамадска-палітычных навук.

Кандыдаты ў ваенныя акадэміі і вышэйшыя школы павінны мець польскае грамадзянства, адпаведны маральны і палітычны ўзровень, здольнасць несці ваенную службу як для кандыдата на прафесіянальнага салдата, пацверджаную ваеннай лекарскай камісіяй, павінен быць кавалерам, мець закончаную сярэднюю адукацыю, даючую права паступаць у вышэйшую школу, узрост да 24 гадоў, за выключэннем ВАМ, дзе ўзрост абмяжоўваецца да 22 гадоў.

Адначасова вядзецца набор кандыдатаў у школы харонжых, дзе вучоба працягваецца ад 1 да 3 гадоў.

На аднагадовы і двухгадовы перыяд навучання прымаюцца выпускнікі сярэдніх прафесіянальных і агульнаадукацыйных ліцэяў і тэхнікумаў.

На трохгадовы курс навучання прымаюцца кандыдаты, якія з'яўляюцца выпускнікамі прафесіянальных школ.

Ахвотныя паступіць у ваенныя школы складаюць заявы-анкеты на рукі камендантаў выбранай школы праз ваенныя каманды папаўненняў.

У час паступлення ў вышэйшыя афіцэрскія школы і акадэміі трэба здаць уступны конкурсны экзамен па праграме сярэдняй школы, а на трохгадовы перыяд навучання ў школах харонжых — па праграме прафесіянальнай школы. Выпускнікі сярэдніх школ, якія кандыдуюць на аднагадовы і двухгадовы курс навучання, прымаюцца ў школы харонжых без уступнага экзамена.

Усе кандыдаты павінны прайсці праверку фізічнай спраўнасці і псіхалагічную праверку.

Дакладныя інфармацыі можна атрымаць у Ваяводскім вайсковым штабе ў Беластоку, вул. Міцкевіча 3, а таксама ў Вайсковых камандах папаўненняў у Беластоку, вул. Кавалерыйская 70, у Бельску Падляшскім, вул. 1 Мая, і ў Саколцы, вул. Варынскага 8.

**Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р**




**АДБІЛАСЯ АД РОДУ**
**(веснавая)**

Каліна-маліна рано расцвіла —
ні за роўню маманька замуж аддала.*)
Засярджусь на маманьку — у госці ні пайду,
аж на трэйці годзічэк пташкай залечу.

У садочку сяду — жаласно спяю,
у садочку сяду — жаласно спяю.
Чы ні ўчуе тато, коня паючы?
Чы ні ўчуе мама, воду беручы?
Чы ні ўчуе сёстра, кароўку пасучы?
Ні ўчуў баценько, коня паючы.
Ні ўчула маманька, воду беручы.
Ні ўчула сёстра, кароўку пасучы.
Ано ўчуў браточок, ад дзяўчыны ідучы.

— Ох, мамонька-мамо, што нам Бог дае —
у нашум садочку зязюлька куе?

— Гыля, гыля, зезюленька, перастань каваць:
як дзіця ты мае мілэ, то хадзі дахат.
То ні зезюленька, то нашэ дзіця —
адбілосе ад роду, як галубеня.

***) Парныя радкі паўтараюцца.**

*Ад Анны Валкавыцкай, 1915 года нараджэння, вёска Таніца гм. Міхалова, запісаў 21 жніўня 1983 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.*

гункі і ягонага аўтамата, які нелюдзь скіроўваў проста на маленькае, беларускае сэрцанька пастушкі-русалачкі, такой раднай у яе дзіцячым захапленні. Так ён яе і падстрэліў у танцы на пянёчку... Жанчына прынесла сама дамоў трупік і гору яе не было меры. У хаце стала сумна. Жалілася на таго немца ў камендатуры, але немец напісаў, што забіў партызана. Бедную маленькую партызаначку ў 10 гадоў, аб такіх і не чутно было на свеце.

Памалу аб вялікім горы забыліся ўсе, толькі не забылася маці. „Я ўсё труднавала і плакала, плакала, а нядзелямі хадзіла ў царкву і на каленях прасіла Бога рады ад мае трудноты, бо і дзяцей занядбала, і хату, і мужыка. Дакарала я сябе, што не ўсперагла свае дачушкі аднойчы да поўначы. Ніхто не чуў мяне, не бачыў і дала волю слязам ды так і заснула на мокрай ад іх падушцы. Ажно бачу, падыходзіць да мяне жанчына ў белым, добрая такая, ласкавая, і кажа, штс будзе ў цябе дачушка і назавеш ты яе Марыя. Я прачнулася і ўся была новая ад чароўнага сну. Якое ж было маё дзіва, калі я адчула, што буду тое дзіцятка мець. Няёмка было крыху, бо хлапчукі падраслі і мне было ўжо 39 гадоў. Муж суцяшаў мяне, а найбольш суцяшаў і супакойваў мяне сон той, у які я паверыла. І так дзяўчынку я назвала Марыяй, хоць і не радзілі мне людзі даваць імя пахаванай дачушкі, але яна гадавалася і вось вырасла такая харошая, гэта любоў мая і ўсёй нашай сям'і.

Прайшло многа часу, Міша выпісаўся з бальніцы і пачаў працаваць у лясніцтве. Не забыўся паклікаць нас на вяселле, толькі мы не маглі скарыстаць з запросінаў, не было як. Бабкі мы таксама не сустракалі і час пачаў заціраць у памяці гэтую несамавітую гісторыю. І вось я ў краме, купляю сабе чаравічкі, выбіраю, а побач шчабеча дзяўчо, бялявенькае, кучаравае і вельмі, вельмі мілае. На нагах у яе чароўныя, набітыя бліскучымі гвоздзікамі зверху туфелькі, зграбныя і маленькія, — гэта ёй брат-марак купіў у Італіі, а вось сукеначку купіў другі брат, а свіцярочак яшчэ адзін брат, такі добры, добры... Я прыгледзелася да дзяўчынкі, аказалася, што яна вучыцца ў Слоніме ў медшколе, сама з сяла Варонічы ля Зэльвы і завецца Марыйка. Марыя Ламека, так, гэта яна, каханая, светлая дзяўчынка, узнагарода маці і людзям за малую лясную танцаўшчыцу на пні... Яшчэ я яе бачыла ўжо як медсястру на ўчастку; поўная адказнасці за свой фах і за сваіх хворых, прыязджала ў Зэльву па лякарствы і заходзілі да мяне. Заходзіла яшчэ раз клікаць мяне на вяселле, выходзіла замуж. Толькі і на гэты раз мы не маглі паехаць да іх, але ад сэрца пажадалі ёй шчасця і доўгіх, доўгіх гадоў жыцця.

**Ларыса Геніюш**




# ВОСЬ І ВЫХАД

Калі я быў малым губатым цвелькам, па нашай ваколіцы ездзіў бедны Шайка-анучнік з Орлі. Гэты Шайка і гаварыў: „Дай Божа мне той розум, што ў мужыка на канцы". Прыклады цвёрда сведчаць за Шайкам. Ужо вялікі байбак, але дурны, павёз я прадаваць на рынак жыта, каб купіць абутак. Жыта я прадаў, але пакуль знайшоў таго, хто прадае чаравікі, убачыў натоўп людзей. „Што там такое"? — падумаў я і пачаў прапіхацца. Бачу, столік, а за ім нейкі прахадзімец усё раскідае тры карты і аж просіцца, каб яго абыграць. Ну, ці ж цяжка адгадаць, дзе чырвоная, калі ён яе паказвае? Бачу, адзін хлопец загарнуў горбу грошай. Давай, думаю, і я нажывуся. Пачаў я адкрываць карты. А стаўка была высокая. Мо тры разы адкрыў і па маіх грашах.

Вестка дакацілася да маёй вёскі. Усе рагаталі.

Учора ў тэлебачанні даведаўся я, што ў краіны 30 мільярдаў долараў даўгу, і што ад яго будзем у год плаціць 3 млд. працэнтаў. Пасівеў яшчэ больш і падумаў: „Хана"!

Сёння сустракаю Віктара, чалавека, бы Шайка, з галавою, і бядую: што будзе з краінай? А той кажа:

— Каб дзяржава не была бездапаможнай, як ты, то ўжо б забылася, як выглядаюць даўгі!

— Што ты скажаш? — азваўся я з уцехай.

— А пэўна!

— Як гэта, Віктар, як?

— А вось як. У краіне 30 мільёнаў дарослых людзей. А 30 мільярдаў падзяліць на 30 мільёнаў — гэта толькі коскай адцяць сем нулёў і выйдзе, што кожны з нас вінаваты 1000 (усяго толькі адну тысячу) долараў. Гэта ж дробязь. Такія грошы ў нас ёсць, толькі ніхто не дасць дарма свайго маёнтку.

— Добра, але што тут павінна зрабіць дзяржава?

— Ты ў мадзьяраў быў? — ні прышыў, ні прылатаў пытае Віктар. — Не. — Шкада, бо хто ў іх быў, той ведае, што там можна зарабіць шмат долараў. А калі так, то дзяржава павінна кожнага з нас паслаць у Венгрыю пяць разоў у год і каб кожны з нас пры вяртанні абавязаўся прадаць дзяржаве дзвесце долараў.

Вось і развязка пытання.

**Васіль Петручук**

P.S. Узнагароду падзяліце на дваіх па роўных частках, бо каб не я, то Віктар сваёй думкі не выказаў бы, бо пісаць не ўмее.

**В.П.**

## НАЙЛЕПШЫЯ ГАСПАДАРЫ

У **Бельскай** гміне да перадавых гаспадароў належаць перш за ўсё **Уладзімір Міхальчук** з Кожына (ён спецыялізуецца ў свінагадоўлі), **Павел Лазовік** з Сакоў (авечкавод) і **Уладзімір Паўлючук з** Зубава (ён гадуе найбольш рагатай жывёлы). (яц)

# БЕЛАРУС НА СЛУЖБЕ

(Працяг са стар 3)

ныя прычыны, застаюцца эмоцыі. Зрэшты, з далечыні часу, прычыны тыя здадуцца смешнымі. Нянавісць затое ніколі не ёсць смешнай.

У наступным апавяданні — папулярны тып беларуса, скрытны Тэлесфар Ялкевіч. Усенька, што ён адкажа каму, нязменна адкажа ў адным плане: *А ці ж я гэта ведаю?!* Ялкевіч не будзе рабіць тое, што не ёсць абсалютна неабходна. Неабходнае да такой ступені, што хоць ты вазьмі, ды на сцяну лезь! Такі вось Тэлесфар Ялкевіч. Пра гэтага салдата Рудніцкі напісаў: *„Ён безупынна заняты скрыжоўваннем уласнага супраціву з тутэйшай дысцыплінаю. У безупыннай заклапочанасці тым, каб як не здацца ёй, усё хітрue ён гэтак жа, як і жыве ў беспрасветнай скрытнасці“.*

Так паводзіць сябе толькі той, хто ведае, што ніхто не заступіцца за яго, у нікога не знойдзе ён падтрымкі прынамсі.

Не меней выразна апісаны мы *„небеларускімі вачыма“* і без аніякіх скідак у далейшых апавяданнях, напрыклад, у *„Абрамовічы“*. Гэта рэч пра радасць чалавека, здаволенага сваім лёсам. А здаволенасць тая ад таго, што ён аказаўся патрэбным, яго кормяць і даюць яму адзенне, хваляць. Вельмі хваляць! *„Ягоная гатоўнасць да паслуг, да выканання загадаў выявілася ў ім у незвычайнай радаснасці, кідкай ахвочасці!“*, — заўважыць Рудніцкі, адначасна дадаючы, што Юзіка Абрамовіча ўсе любяць, кожнаму ён падабаецца, нават трохі забаўляюцца некаторыя ім, але і дакладна ніхто, аднак, не шануе яго, а *„вярхі“* то і зусім. Абрамовічу не хочацца адыходзіць з арміі дамоў, так тут яму лепей. Яму і сапраўды было няблага служыць, бо *„...Абрамовіч гэта ўсмешка, радасная ўсмешка, балванец, бядуля бязвінная, што жыве на пацеху сваю, нашу ды свету цэламу. Не злуецца ён на жарты і хто хоча жартуе з яго, каб самому сабе тады здацца лепшым, разумнейшым, важнейшым і сур'ёзнейшым“.*

Праўда рэдка бывае прыемнай. У гэткім настроі закончыў я чытанне пра позірк Рудніцкага на нас. Можна мець прэтэнзіі да яго, і калі ў каго ёсць вопыт дэмагога, дык лёгка фармуляваць іх на базе гэтага матэрыялу. Не варта, аднак, тым болей не варта, што такая абарона простым шляхам вядзе ў небяспечную краіну самаўсхвалення.

Сакрат Яновіч

*) Adolf Rudnicki, Sto jeden, I t., Wydawnictwo Literackie, Kraków — — Wrocław 1984. Cena 250 zł.

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Ахвота горш няволі.

Добрага сабаку на ланцугу трымаюць.

З лысага цяляці лысы вол будзе.

Кожны па-свойму Богу моліцца.





Заняткі мастацкага гуртка вядзе мастак Веслаў Цесля.

# ХОЦЬ ДОБРЫ, АЛЕ БЯЗДОМНЫ

Ужо некалькі гадоў працуе ў Бельску дзіцячы мастацкі гурток. У ім дзеці малодшых класаў вучацца бачыць свет каляровым, пазнаюць розныя спосабы малявання, выпрацоўваюць руку, здабываючы ўменне выказаць на паперы тое, што бачаць і адчуваюць.

Некалькі гадоў назад у Бельск прыехаў малады выпускнік Інстытута мастацкага выхавання ў Любліне Веслаў Цесля. З вялікім запасам ведаў і ахвоты вучыць дзяцей валодаць алоўкам і фарбай, ён пачынае працу ў Бельскім доме культуры інструктарам. Першыя крокі рабіў са старэйшымі дзецьмі — вучнямі ліцэяў. Хутка аднак аказалася, што члены гуртка, не паспеўшы ўвайсці ў глыбейшыя таямніцы мастацтва, канчалі школы і пакідалі гурток. Тады малады мастак вырашыў пачаць працу з наймалодшымі.

Арганізавалася група дзяцей з аднаго класа школы № 3 у Бельску. І вось не прайшло і года, як праца з малымі дала першыя эфекты. З'явіліся цікавыя, свежыя і вельмі эмацыянальныя малюнкі.

Ужо ў 1982 годзе ў ваяводскім конкурсе ТПД рэчавыя ўзнагароды за найлепшыя працы атрымалі васьмігадовыя тады Войтэк Чыжык, Еля Петручук і Ася Бандарук, а Марта Хомэй, Рыгорка Дзмітрук і яго сястра Малгося былі адзначаны ганаровымі дыпломамі.

З таго часу ні адзін ваяводскі конкурс дзіцячага мастацтва не прайшоў без удзелу малых мастакоў з Бельска.

У маі 1983 года малюнкі членаў гуртка былі высланы на ваяводскі агляд Агульнапольскага конкурсу мастацкай творчасці дзяцей і моладзі. Працы Рыгоркі Дзмітрука і Мірка Мацеюка занялі ў Беластоку першае месца, Войтка Чыжыка — другое, Андрэйкі Далінскага — трэцяе. А на цэнтральным аглядзе таго ж конкурсу, які адбыўся ў Фрамборку, рэчавыя ўзнагароды за малюнкі атрымалі Рыгор Дзмітрук і Войтэк Чыжык, дыплом — Андрэй Далінскі. Іх працы былі прыняты ў Музей Мікалая Каперніка на Агульнапольскую выстаўку мастацкай творчасці дзяцей і моладзі. Другакласнікі з бельскай „тройкі“ выйгралі канкурэнцыю з вучнямі агульнаадукацыйных і мастацкіх ліцэяў, якія таксама ўдзельнічалі ў гэтым жа конкурсе.

Нядаўна, пад канец 1984 года, стала вядома, што малюнак Рыгоркі Дзмітрука на тэму „Праца ў полі“ заняў трэцяе месца ў міжнародным конкурсе мастацтва дзяцей і моладзі ў Фінляндыі. Рыгорка быў тады запрошаны разам са сваім выхавацам у Варшаву на ўручэнне ўзнагароды.

І вось цяпер, калі гурток ужо мае свае дасягненні, аказваецца, што ён застаўся без месца для працы. Да гэтага часу пакой на працоўню ў сваім будынку давала Бельская жыллёвая спулдзельня. Але там, пасля выбараў новага праўлення, аказалася, што пакой больш патрэбны на магель. Відаць, выхаванне моладзі ў гэтага праўлення адышло на далейшы план. І гурток аказаўся бяздомны.

## ПАРТЫЗАНСКІЯ СЦЕЖКІ

# БАЦЬКУ ЗАБІЛІ, МАЦІ ЗАБІЛІ...

Непадалёк ад Міхалова, ля шашы ў Жэдню і Беласток, на ўзгорку пад лесам, знаходзіцца дбайна дагледжаная брацкая магіла — сумны асколак даўно закончанай вайны. Яна заўсёды займала маю ўвагу. Хацелася разгадаць трагедыю людзей, якія знайшлі вечны спачын у нашай шматпакутнай зямлі. То ж чалавек — не іголка, нейкі след сваёй прысутнасці сярод людзей заўсёды пакідае.

Па-суседску знаходзяцца Міхалоўскія хутары. Можа там што-колечы ведаюць аб гісторыі гэтай адзінокай магілы і аб людзях, у ёй пахаваных?

Мне пашчасцілася. Дома застаў я **Анастасію Клусак** і **Валянціна Грыбоўскага** (Гжыбоўскага). Абое яны людзі старэйшага ўзросту і добра захавалі ў памяці гэтыя трывожныя дні з канца чэрвеня 1941 года.

— Гэта было так, — пачала расказ бабулька Насця, — ад лесу, дарогай з Беластока ў Міхалова, ехалі на аўтамабілях рускія, а тут, — яна абвяла рукой шырокі круг, — тут усюды па гэтых кустах, у траве і ў збожжы хаваліся немцы.

— Яны наладзілі рускім засаду! — са знаёмасцю ваеннай справы паясніў дзядзька Валянцін ды яшчэ пахваліўся: — Я служыў у Польскім Войску, дык ведаю, як гэта бывае. Рускія, пане, не мелі тут аніякіх шанцаў. Папаліся яны ў добра падрыхтаваную пастку. Наўрад, ці хто-колечы з іх паспеў хаця б раз выстраліць.



Бабулька Анастасія.

— То ж гэты бой трываў вельмі коратка, — зноў адазвалася бабулька Анастасія. — Я добра гэта памятаю, — адзначыла яна. — Мы пахаваліся ў бульбяным склепе. Сядзімо, памятаю, і баімося галаву на свет Божы паказаць. А тут чуем, што ўжо і немцы па панадворку ходзяць і аб нечым шваргочуць. Адзін з іх і па-нашаму крыху, значыць, па-польску ўмеў. Знайшлі нас у гэтай піўніцы і гавораць, каб браць лапаты і закопваць пабітых.

— Мне таксама давялося хаваць гэтых бедных чырвонаармейцаў, — адазваўся дзядзька Валянцін, калі яго суседка замоўкла на хвіліну, каб крыху перадыхнуць і супакоіцца. На шашы, у равах, а нават і пад мосцікам ляжалі трупы гэтых салдат. Адзін з іх залез далёка ў

Дзе ж падзецца малым мастакам?

Бельскі дом культуры, які дае інструктара, пры ўсёй сваёй добрай ахвоце, памяшкання даць не можа. Проста не мае. Недзе ў далёкіх планах Дома культуры ёсць будова дадатковага крыла да існуючага будынка. Але гэта ўсё яшчэ ў далёкіх планах.

Усе члены гуртка — гэта вучні падставовай школы № 3, нават усе вучацца ў адным класе. Дык можа ў школе?

Школа ахвотна прыняла б да сябе гурток, ды пакуль што пра гэта і гаварыць нельга: У „тройцы" такая цеснага, што ніякая добрая воля і вялікая ахвота нічога тут не паможа. Можа, калі аддадзены будзе новы школьны будынак? А гэта плануецца ўжо ў верасні.

Добра было б, каб дырэктар школы знайшоў адпаведна асветлены пакой для працы мастацкага гуртка і прыняў яго пад свой дах. Здаецца абсалютна лагічным, каб дзеці адной школы, нават аднаго класа, займаліся ў сваёй школьнай працоўні. А гэта значыць, што гурток павінен быць узяты пад апеку асветных улад. Тады дзеці не вымушаны былі б, маючы некалькі вольных ад занятках гадзін, бегчы далёка ў горад на заняткі. Тады б малюнкі членаў гуртка ўпрыгожвалі сваю ўласную школу, а іншыя дзеці маглі б вучыцца ў мастакоў перадаваць на паперы свае пачуцці. А Дом культуры і жыллёвая спулдзельня, дапамагаючы па меры сваіх магчымасцей дзецям сваіх наведвальнікаў і членаў, арганізоўвалі б для дзяцей розныя тэматычныя конкурсы і выстаўкі маладых мастакоў.

А пакуль што, нічыйныя і бяздомныя, малыя мастакі малююць далей. Чым хто мае і на чым мае. Збіраюцца на заняткі ў фае Дома культуры, дзе працуе іх выхаваўца. І чакаюць, што дарослыя з трох бельскіх установаў дагаворацца і знойдуць спосаб ім памагчы.

Як шмат мы, дарослыя, гаворым аб выхаванні маладога пакалення! І як часта мала робім, калі дзеці патрабуюць ад нас канкрэтнай дапамогі!

**Яніна Чэрнякевіч**

Фота аўтара



**Рыгорка Дзмітрук, лаўрэат міжнароднага Конкурсу мастацтва для дзяцей і моладзі „Фінляндыя-84", са сваёй сястрой Малгосяй. Малгося таксама прыгожа малюе.**

**(Працяг са стар. 1)**

## СЛЕДАМ ШЧЫРАГА ЛІСТУ

калькі вершаў. Некаторыя надрукаваны ў „Белавежы".

З кароткай размовы з дзяўчынай, якую мы ўзялі ў кабінеце дырэктара і па яго дазволу, я яшчэ даведалася, што Люся атрымлівае ў школе стыпендыю — самую высокую, якую можна даць, што вельмі крытычная да сябе за слабыя ацэнкі, што любіць усіх настаўнікаў, а адну абажае: „Хачу быць настаўніцай, як наша пані Зіна (Зіна Дзем'янюк — мгр бел. філ., выкладчык беларускай мовы ў ліцэі). Яна вельмі мне падабаецца — яе характар, спосаб жыцця, як абыходзіцца з намі. Яна такая добрая, мілая, ніколі не крычыць, ад яе можна многаму навучыцца".

Што ж дадаць? Хацелася б як найчасцей запісваць прыклады такіх адносін настаўнік — вучань. І цешуся, што беларускі ліцэй прадаўжае традыцыю, якая нарадзілася ў пачатку існавання школы: быць добрым бацькам і добрай маці сваім выхаванкам.

А жыве Люся на кватэры ў старэйшай жанчыны — Веры Ясвіловіч і абедзве задаволены, што гаворыць па-беларуску.

Прывітанне такім людзям!

**Вера Лeўчук**

## МАЕ ПАЖАДАННІ

Жанчына, ты, мая жанчына,  
Як сёння Дзень Твой мне вітаць?  
І што тады табе павінен  
Я ў гэта свята пажадаць?

Жадаю моцы табе многа,  
Асіліць каб жыцця цяжар,  
І дзён шчаслівых без трывогі,  
Спаўнення ўсіх жыццёвых мар.

Яшчэ адно маё жаданне  
Нясу табе я на парог:  
Каб наша чыстае каханне  
Ніхто нам памуціць не змог.

Каб нашы ўсе жыцця сцяжыны  
Сышліся ўрэшце ў адзін шлях.  
Каб заўжды ты жыла, жанчына,  
У маім сэрцы, маіх снах!

**Віктар Швед**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Мне прысніўся вельмі страшны сон. Быццам бы пачынаецца вайна — ізноў прыйшлі немцы. Я была якраз на рабоце. Зрабіўся шум, гул, кругом запанаваў неспакой, але нашага будынка (дзе я працую) нейк нічога не кранае. Наш кіраўнік загадаў нам усім быццам бы эвакуіравацца некуды цэлай установай. Трэба збіраць і вывозіць усе дакументы, стосы папераў розных. Мы з сяброўкай вельмі стараемся, звязваем гэтыя паперы і складваем, а іх усё прыбывае. Мы спяшаемся, бо немцы ўжо тут і мы баімся, што не паспеем выехаць. Нарэшце заканчваем валакіту з дакументамі. Тут выходзіць наш кіраўнік і гаворыць: „А, то добра, то я цяпер магу ўцякаць!" І ўжо я яго не бачу. Мы застаемся з сяброўкай адны ў вялізнай зале, дзе складвалі гэтыя дакументы (яны, зложаныя, быццам ужо недаступны немцам). І вось думаем: як жа тут уцячы, калі вакол нас ужо вораг, і толькі наша ўстанова асталася незанятай, бы нейкая выспа. Я выглядаю ў вакно з аднаго боку: бачу, што на плошчы перад нашым будынкам стаяць вялізныя самалёты з фашысцкай свастыкай. Заглядаю тады ў вакно з другога боку, а там ужо стаяць, таксама са свастыкай, нямецкія аўтамабілі. Дык як жа тут уцячы, як знайсці нейкі праход між войскамі ворага? — думаю я і з гэтымі пакутлівымі думкамі прачынаюся. На шчасце, усё гэта было толькі сном. Дарагі Астроне, скажы, мо гэты мой сон абазначае нешта дрэннае?

**Маркотная Галіна**

Галіна! Чаго маркоцішся? Вайны ж няма, і немцы сядзяць на сваім месцы, і самае страшэннае, што магло б здарыцца — гэта, каб твой сон стаў рэчаіснасцю. Але ж не стаў! Божа, як часта ўва сне людзі вяртаюцца да таго трагічнага мінулага, якое прынесла ім фашысцкая акупацыя! Колькі людзей выйшла з гэтай вайны не толькі акалечанымі фізічна, але і псіхічна! Мінула 40 год, але іх пакуты яшчэ не скончыліся і кашмарныя мроі праследуюць іх па начах яшчэ сёння.

Думаю ўсё ж, што твой сон абазначае нейкую сварку, а мо непрыемную размову з тваім кіраўніком. Мо дзе што наблытаеш у гэтых паперах, вось сутычка з шэфам і гатова. А гэта ж мо яшчэ неяк перажывеш. Гэта ўсё ж не вайна!

**Астрон**

бетонную трубу, каб схавацца ад варожых куль, але і там яго выкрылі ды бесцырымонна прыстрэлілі.

— Выцягвалі мы гэтага хлопца з-пад мосціка, — расказвае дзядзька Валянцін, — а нейкі нямецкі афіцэр узяў фотаапарат і пстрыкае, каб яго гаручка... Цешыцца чужым няшчасцем. Яго камраты глядзяць на ўсё гэта і таксама рагочуць. Ім весела, яны перамаглі...

Старэнькі чалавек, апрануты ў выцерты вайсковы, афіцэрскі мундзір, які даўно ўжо затраціў сваё першапачатковае прызначэнне і стаў звычайным рабочым адзеннем, гэты чалавек выразна нервуецца. Кажа, што хацелася наплюваць у вочы гэтаму фатографу. На жаль, дазволіць сабе на такую роскаш, ён, зразумела, не мог.

Трупы зносілі на ўзгорак.

— Тады яшчэ не было тут гэтага лесу, — кажа пан Грыбоўскі. — Выкапалі мы шырокую і глыбокую яму, каб пабітыя маглі змясціцца ў два рады, галовамі да сцен ямы, нагамі — да сярэдзіны. Ды і так яшчэ месца не хапіла. Давялося прыкрыць трупы галінкамі і прысыпаць хоць крыху пяском, а пасля на іх класці другі слой. Разам мы ў гэтай магіле пахавалі шэсцьдзесят чалавек. Яшчэ да сёння стаіць у мяне перад вачыма гэты жудасны малюнак. І часам мне сніцца, што я зноў і зноў тапчуся па мёртвых целах чырвонаармейцаў...



**Валянцін Грыбоўскі.**

Ён замоўк і сядзелі мы моўчкі некалькі хвілін.

— А можа нейкія дакументы знайшлі вы пры іх? — запытаў я, каб працягнуць далей нашу размову.

— Хто там з нас думаў тады аб нейкіх дакументах гэтых салдат! — адказаў дзядзька Валянцін. — Над намі стаяў нямецкі афіцэр і падганяў, каб хутчэй мы спраўляліся з работай.

Значыць, падумаў я, калі б цяпер асцярожна раскапаць гэтую магілу, дык раскрыла б яна, магчыма, не адну загадку людской трагедыі. То ж у кожнага сярод гэтых шасцідзесяці воінаў былі маці і бацька, былі дзядзькі і цёткі, браты і сёстры, пляменнікі. Многія з іх, астаўшыеся ў жывых, да сёння не могуць прымірыцца з думкай, што іх сын, брат, ці дзядзька загінуў „без весці". Колькі пісьмаў з просьбамі знайсці магілку салдата я сам атрымоўваў з розных куткоў Савецкага Саюза!

Але ці можна, ці варта, ці выпадае парушаць святы пакой салдацкіх магіл дзеля таго, каб

**(Працяг на стар. 8)**

**(Працяг са стар. 2)**

## АБ АКІЯНЕ

Атлантыкі па сотнях тысяч ідэальна адшліфаваных вадой каменьчыкаў, якія ўслалі тоўстым слоем залацісты бераг, або ўпасці тварам у гарачы пясок і праляжаць некалькі гадзін.

Прайшлі тры гады, а ўсё гэта жыве ва мне і адзначаецца водгуллем той вечнай малітвы, песні, блакітнасці, зелені і магіі, якія складаюцца на спецыфіку і харaство акіяну.

Дзякуй Вам, пане Валодзя, за Атлантыку.

**Алесь Барскі**

## Цікавінка

### МІЖНАРОДНЫ ЧЫРВОНЫ КРЫЖ

Міжнародны камітэт Чырвонага крыжа знаходзіцца ў Жэневе (Швейцарыя). Працуе ў ім толькі 120 штатных працаўнікоў, а картатэка людзей, загінуўшых у розны час і ў розных умовах, змяшчае 60 мільёнаў прозвішчаў.

Дагэтуль пошукі вяліся пісьмова, але вось Швейцарская канфедэрацыя вызначыла 15 мільёнаў швейцарскіх франкаў, за якія Міжнародны камітэт Чырвонага крыжа перавёўся ў сучасны будынак з камп'ютэрам. Тут усе дадзеныя аб загінуўшым падаецца электроннаму мазгу, а той на працягу секундаў параўноўвае ўсё сабранае ў банках інфармацыі ва ўсім свеце.

Войны і канфлікты на ўсіх кантынентах даюць найбольш працы МКЧК. Напрыклад толькі за мінулы год жэнеўская цэнтраля Чырвонага крыжа атрымала 300 тысяч новых заказаў на пошукі загінуўшых.

У першую сусветную вайну кожны дзень прыходзіла па 18 тысяч новых лістаў з просьбай аб пошуках. У самым пачатку другой сусветнай вайны кожны дзень прыносіў 600 новых просьбаў, а ад 1944 года камітэт атрымліваў іх ужо па 100 тысяч у дзень.

Больш як 120 мільёнаў лістаў ляжыць у сядзібе МКЧК з часоў другой сусветнай вайны!

(авл)

## Кутох практычных ведаў

Растворам адной часткі нашатырнага спірту ў чатырох частках вады чысцяць замшавыя пальчаткі. Іх праціраюць ватай, змочанай у растворы, затым ваткай, змочанай у чыстай вадзе або з воцатам (чайная лыжка на літр вады).

Такім жа растворам абнаўляюцца замшавыя туфлі. Паверхню чысцяць, затым праціраюць гумавай шчоткай або наждачнай паперай.

Нікеляваныя і сярэбраныя рэчы будуць бліішчэць, як новыя, калі іх працерці шарсцяной анучкай, змочанай нашатырным спіртам.

### ТАЯМНІЦЫ ВАКОЛ НАС

# ПРА САСНУ

Калі я працаваў леснікам у Навасадах, то пасябраваў з былым партызанам Рыгорам Саевічам. Падабаліся мне ягоныя партызанскія расказы, хоць ён і не быў расказчыкам, дакладней: не столькі расказваў, колькі адказваў на пытанні. Помніцца мне адна з многіх нашых размоваў:

— Як у лесе вы давалі сабе рады з харчаваннем? — запытаў я.

— Розна, надта ж розна, — адказаў Саевіч. — Раз бывала мяса, другі — каша, часам які-небудзь аладак, вясною ж — салата з лясных зёлак, тушаныя парасткі сасны, восенню — фрукты, арэхі. Словам, набор страў вельмі разнастайны.

Як сёння, памятаю тую размову, бо тады пачуў я новую для лесніка звестку, што чалавек таксама сасною можа жывіцца! Мне была вядома разнастайная прыдатнасць гэтага карыснага дрэва, але выкарыстання яго ў харчаванні я і не падазраваў. Таму і папрасіў пазнаёміць бліжэй з партызанскімі кулінарнымі таямніцамі.

— Якія там таямніцы! — Саевіч мне на тое. — Трэба назбіраць маладзенькіх у 2-3 сантыметры велічынёй парасткаў на маладых сасновых дрэўцах, укінуць у гаршчок, уліць крыху вады ды паставіць на агні. Вада, паруючы, забірае горыч і пах смалы. Рэштку вады сцадзіць, наліць свежай і зварыць або падсмажыць на патэльні. Смакуе лепш як бульба.

Так. У розных акалічнасцях адкрываюцца ўсё новыя таямніцы акружаючага нас свету. Сасна вядома ўсім народам ад Японіі па Англію. Пра яе напісалі многа кніг, але аб тым, што яе парасткі прыгодны да яды, — ніхто не ўпамінае. Гэта адкрылі толькі беларускія партызаны падчас II сусветнай вайны.

У нашым рэгіёне сасна звычайная (лацінская назва — Pinus silvestris L., польская — sosna zwyczajna, руская — сосна обыкновенная, беларуская народная назва — хвоя) расце з незапамятных часоў. На свята вясны (зелянец) галінка або малое сасновае дрэўца доўгі час выконвала ролю літургічнага прадмета. Такую ўпрыгожаную галінку насілі навокал палёў і па вёсках, зычылі шчаслівага „новага летка", не „лета", але якраз „летка". У народных вераваннях сасна, таксама як іншыя дрэвы, валодала магічнымі і аздараўляючымі ўласцівасцямі. Быццам бы попел з яе кастрыцы, прыкладзены да дзясла, супакойваў боль зубоў. Шышкі і покаўкі, звараныя разам у сыроватцы, знахары рэкамендавалі як самы дзейсны сродак супраць „рвання ў касцях", свярбення галавы і балячак. Сасновае насенне, калі яго есці нашча, аздараўляе дыхавічных. Стружкі з сасновых дошак, сабраныя, калі з іх рабілі труну, сцёртыя на муку і звараныя з гарэлкай, а затым улітыя ў пусты страўнік, засцерагалі быццам бы ад грыжы! Мо хто і выздаравеў. Казкі таксама часам памагаюць.

У медыцыне выкарыстоўваюцца маладыя парасткі, покаўкі, жывіца сасны. Покаўкі збіраюць толькі са ссечаных дрэваў ад лістапада да канца сакавіка. Найбольшую вартасць маюць покаўкі з верхавін дрэў, асабліва з маладых сасонак, якія ссечаны падчас ачысткі маладнякоў. Высушаныя покаўкі павінны быць гладкія, са стуленымі лускамі, пакрытыя жывіцай, пры разрэзванні зеленаватыя, з бальзамічным пахам і горкім жывічным смакам. Адвар з сасновых покавак прымяняюць пры лёгкіх катарах дыхальных органаў. Нарыхтоўваецца лякарства вельмі проста: палову сталовай лыжкі (10 грам) покавак на шклянку вады, укінуць у гаршчок і зварыць. Прымаць 3-4 разы на дзень па сталовай лыжцы.

Для выкарыстання ў фармацэўтыцы збіраюць таксама маладыя парасткі, адразу пасля прарастання покавак, калі яны даўжынёй каля 5 сантыметраў і яшчэ атулены лускамі. Ужываюць іх для пахучых ваннаў пры рэўматычных захворваннях і для нарыхтоўкі спецыяльнага вітаміннага пітва. На пітво дзве жмені (каля 4 шклянак) дробна пасечаных парасткаў заліць 2-3 шклянкамі вады, дадаць дзве гарбатнія лыжачкі саляной кіслаты (сольнага квасу) і паставіць у цёмным месцы на 2-3 дні, затым працадзіць і піць па адной шклянцы на дзень. Пітво мае крыху горкі смак, але ў ім ёсць многа вітамінаў.

**Б. Паскробка**
**Фота Я. Целушэцкага**

(Працяг са стар. 7)

# БАЦЬКУ ЗАБІЛІ, МАЦІ ЗАБІЛІ...

задаволіць адно толькі цікавасць жывых?

Я ў гэтым не ўпэўнены. Адзін раз такое штосьці ўжо здарылася ў нашай краіне. Замысел быў высакародны: выявіць вечную ўдзячнасць савецкім воінам, якія за нашу свабоду заплацілі самую высокую цану, — аддалі сваё жыццё. Рашылі тады ў паятовых цэнтрах наладзіць спецыяльныя могільнікі, каб увекавечыць на іх памяць загінуўшых салдат. Такім чынам узніклі могільнікі савецкіх воінаў у **Беластоку, Бельску, Гайнаўцы, Мілейчыцах** (для тадышняга Сямяцкага павета) і ў іншых павятовых цэнтрах. На гэтыя могільнікі звозілі астанкі з магіл, рассеяных па палях і лясах. Калі захаваліся яшчэ нейкія надпісы з імёнамі і прозвішчамі, ваеннымі званнямі і датамі нараджэння ці смерці, то гэтыя дадзеныя заносілі ў пратакол эксгумацыі (бо так называлася гэтая акцыя), а затым састаўлялі для кожнага брацкага могільніка спецыяльны рэестр. Гэтыя рэестры захоўваюцца зараз у гмінах, на тэрыторыі якіх знаходзяцца могільнікі савецкіх воінаў, і там трэба шукаць усялякія даведкі.

Міхалова прыналежала тады да Беластоцкага павета і таму астанкі салдат з магілы на ўзгорку пад Міхаловам перавезлі на могільнік, які зараз знаходзіцца ў Беластоку на Пятрашах.

— Я бачыў, як раскопвалі гэтую магілу, — кажа Валянцін Грыбоўскі. — Адны ўжо косці асталіся і больш нічога. А ўсё ўзаемна так перамяшалася ў зямлі, што немагчыма было пазнаць, якая косць да каго прыналежыць... Я ж вам казаў, што 60 чалавек мы там пахавалі. Дык забралі яны чэрапы, а ўсё іншае назад засыпалі.

— І таму захавалася гэтая магіла? — пацікавіўся я.

— Можа і таму, — адказала бабулька Анастасія. — Але тут яшчэ іншая справа. Бачыце, разам з гэтымі байцамі была забіта яшчэ адна руская жанчына...

Бабулька хвіліну падумала, уздыхнула і неяк сумна прадоўжыла свой расказ:

— Я думаю, што была гэта руская, бо чаго ж бы яна апынулася каля рускіх салдат?

— І падумайце, што за здарэнне! — перапыніў яе Валянцін Грыбоўскі. — Бацьку забілі, маці забілі...

— І сына, хлопчыка бадай трохгадовага, таксама забілі, — дакінула бабулька Насця.

—...а маленькае дзіцятка, яшчэ грудное, асталося ў жывых! — дакончыў дзядзька Валянцін.

— Гэта можа тое самае дзіця, — запытаў я, — якое вашы суседзі, Цабаі, узялі на выхаванне?

— Так! — амаль усклікнула бабулька Насця. — І выхавалі, як сваю родную дачку! — адзначыла яна. — Цяпер гэтая жанчына жыве ў Міхалове, сваіх чацвёра дзяцей мае і ўсе дочкі. Ужо дарослыя, — з хваляваннем і нейкай асаблівай іскрынкай у вачах інфармуе мяне бабулька Анастасія. — Немец казаў, што заб'е гэтае дзіцятка, калі хтосьці ім не заапякуецца. А яно маленькае, малюсенькае было, вось ледзь такое, — яна рукамі паказала размеры дзіцяці, — зусім бездапаможнае, крушынка малая...

— І падумайце, — зноў дзядзька Валянцін перабіў сваю суседку. — Усіх пабілі, а яно адно ўратавалася!

— Неўзабаве адгулялі мы хрысціны ў Цабаёў, — зноў узяла голас бабулька Насця. А я падумаў, што сапраўды чалавечы лёс ходзіць нязведанымі шляхамі. І таму ахвотна яшчэ прадоўжу расказ аб лёсе гэтага дзіцяці, але ўжо наступным разам.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

# Зорка

## Старонка для дзяцей




**МНОГА ШЧАСЦЯ, СОНЦА, РАДАСЦІ ЎСІМ ЖАНЧЫНАМ У ДЗЕНЬ ІХ СВЯТА ЖАДАЕ „ЗОРКА".**

### МАЁЙ БАБУЛІ

**Ты вельмі многа працавала:**
**Арала, сеяла і жала,**
**А час гады твае зжынаў.**
**І хоць стамлялася нямала,**
**На долю ў думках наракала,**
**Спачынку лёс цяжкі не знаў.**

**Вайна заслала пылам смерці**
**Зрок, каб надзею спапяліць,**
**Таваё ж шаптала ў веры сэрца:**
**— Мы пераможам, будзем жыць!**

**І зерне, як жыцця аснову,**
**Ты ўвесну кідала ў раллю,**
**Каб адрадзіць, узняць нанова**
**Вайной забітую зямлю.**

**Нямала знішчыў смерч той злосны —**
**Засохла дзічка на мяжы,**
**Але ўзнімалася калоссе:**
**— Мы пераможам, будзем жыць!**

**Гады ад родных сцен, ад ганка**
**Пайшлі у жнівень залаты.**
**Свае турботныя світанкі**
**Старым сярпом пажала ты.**

**Які ўжо раз пажата жыта,**
**Цвітуць па лесе верасы.**
**Асенняй сівізной пакрыты**
**Твае, бабуля, валасы.**

*Святлана Васілевіч,*
*вучаніца з Беларусі.*

### МНЕ ГЭТА ЎСЁ МАТУЛЯ ПАДАРЫЛА

**Вясну і лета, восень і зіму,**
**Бярозку, што са мной гамоніць міла,**
**Забыць я аніколі не змагу, —**
**Бо гэта мне матуля падарыла.**

**Лугі, бяскрайнія палеткі**
**І матылька, які расправіў крылы,**
**І пах смалы, і веснавыя кветкі, —**
**Мне гэта ўсё матуля падарыла.**

**І месяц з зоркамі на небе,**
**І сонейка, што цэлы дзень свяціла,**
**І водар свежаспечанага хлеба, —**
**Мне гэта ўсё матуля падарыла.**

**Сцяжынку ў полі, сенакосы,**
**Жыццё, у якое я ўступіла,**
**Буйныя ранішнія росы, —**
**Мне гэта ўсё матуля падарыла.**

**Свой родны край, свае абшары,**
**Дзе ўсё так ветліва і міла,**
**Мне не забыць, як добрай мары, —**
**Бо гэта мне матуля падарыла!**

*Люда Пышынская,*
*васьмікласніца з БССР.*

**Ст. Брэр**

## САЛДАТЫ ДАПАМАГЛІ

Аднойчы раніцай у наш двор прыйшлі салдаты. У руках у іх былі лапаты і ломы. Пачалі салдаты капаць ямы, насыпаць земляныя горкі.

Я падышоў бліжэй: „Што яны робяць? А можа ў нашым двары будзе вучэбны палігон? Цікава!"

Падышоў і Уладзік. Я яму пра палігон расказаў, але ён засумняваўся. А потым кажа:

— А мы зараз даведаемся.

І пайшоў да камандзіра.

— Дзядзька, што вы робіце?

— Гушкалкі, драбінкі, — усміхнуўся камандзір.

Нейкі час мы моўчкі глядзелі, як салдаты працуюць. Потым Уладзік вырашыў:

— Прапаную памагчы.

Я згадзіўся. Мы падышлі да камандзіра і кажам:

— Прыбыло папаўненне! Гатовы дапамагаць!

— Выдаць папаўненню зброю! — загадаў камандзір.

Вясёлы салдат з рыжымі вусамі выдаў нам дзве лапаты.

— А я гэта думаю, чагосьці нам яшчэ не хапае? Аказваецца, памочнікаў! Цяпер у момант управімся.

Салдаты дружна засмяяліся.

— Спыніць жарты! — загадаў камандзір. — Шмат работы перад намі.

Мы з Уладзікам пачалі глядзець, як салдаты капаюць, і самі пачалі капаць, паўтараючы іх рухі.

І тут з суседніх дамоў пачалі выходзіць дзеці. Яны ўбачылі, што мы памагаем салдатам, і таксама захацелі памагчы.

Хутка двор перамяніўся ў шматлюдную будову. Кожны рабіў, што мог: капаў яму, насыпаў зямлю, збіраў смецце.

Увесь дзень кіпела работа, а калі прыйшоў час абедаць, салдаты накармілі нас аўсянай кашай з вялікага жалезнага тэрмаса.

— Аўсянка для салдата — першая справа! — усміхнуўся салдат з рыжымі вусамі.

Да вечара двор нельга было пазнаць. Гушкалкі, драбінкі, карусель, лавачкі, клумбы, прыгожа абкладзеныя каменьчыкамі!

Наогул наш двор замяніўся ў вясёлае мястэчка.

— Прыгожа! — цешыўся камандзір. — Загад быў за тры дні зрабіць, а тут за адзін дзень справіліся! Вось што значыць папаўненне прышло на час! А ну, на гушкалку, марш!

Мы з Уладзікам кінуліся выконваць каманду. Гушкалка падкінула мяне ў паветра так, што дух перахапіла. Усё закруцілася — двор, дамы, неба з блізкімі воблакамі. І мне здалося, што я лячу, як птушка! А разам са мною мой сябар Уладзік!

— Гэй, прыемнага лёту! — крыкнуў нам камандзір. А салдаты памахалі нам на развітанне рукой.

— Дзякуем! — адказалі мы з Уладзікам, набіраючы вышыню.

**К. Ушынскі**

## СВАВОЛЬСТВЫ БАБУЛІ-ЗІМЫ

**Казка**

Раззлавалася бабуля-зіма: задумала яна ўсё жывое са свету звесці. Перш за ўсё яна пачала да птушак дабірацца: надакучылі яны ёй сваім крыкам і піскам.

Падзьмула зіма холадам, пазрывала лісце з лясоў і гаёў і паразмятала яго па дарогах. Няма куды птушкам дзявацца. Пачалі яны чародкамі збірацца, думачку думаць. Сабраліся, пакрычалі і паляцелі за высокія горы, за сінія моры, у цёплыя краіны. Застаўся верабей, і той пад страху схаваўся.

Бачыць зіма, што птушак ёй не дагнаць: накінулася на звяроў. Зацерушыла снегам палі, завалiла гурбамі лясы, апранула дрэвы ледзяной карой і пасылае мароз за марозам. Ідуць маразы адзін за другога люцейшы, з елкі на елку пераскакваюць, патрэскваюць ды папстрыкваюць, звяроў палохаюць. Не спалохаліся звяры: у адных кажухі цёплыя, другія ў глыбокія норы схаваліся. Вавёрка ў дупле арэшкі грызе, мядзведзь у бярлозе лапу смокча, зайчык скачучы, грэецца, а коні, кароўкі, авечкі даўным-даўно ў цёплых хлявах гатовае сена жуюць, цёплае пойла п'юць.

(Працяг на стар. 10)



Марта Хомэй і Войтэк Чыжык з Бельскай школы № 3 займаюцца ў мастацкім гуртку пад кіраўніцтвам мастака Веслава Цеслі. Іх працы не раз адзначаліся па розных дзіцячых конкурсах малюнкаў і займалі першыя месцы.

Фота Я. Чэрнякевіч.

# РОБІМ САМІ ЦАЦКІ

*Сёння прапануем вам цікавы занятак. Будзем вучыцца ўласнаручна рабіць папяровыя цацкі. Пры гэтым можна многаму навучыцца, выкарыстаць уласную вынаходлівасць, здагадлівасць, дасціпнасць і пры гэтам прыемна праводзіць вольны час.*

*Цацкі можна рабіць з розных матэрыялаў. На гэта патрэбны толькі спрытныя рукі і памысловая галоўка. „Зорка" запрашае да супольнай забавы. Будзем майстраваць разам.*

*На пачатак давайце навучымся рабіць цікавую кветачку — цюльпан. Такую кветачку можа хлопец уручыць дзяўчынцы або ўпрыгожыць ёю нейкую дэкарацыю ці нават зрабіць букет і паставіць яго ў класе. Пакуль прыдзе вясна са сваімі жывымі кветкамі, навучымся рабіць кветкі самі.*



мал. 1


мал. 2


мал. 3.


мал. 4


мал. 5.


мал. 6.


мал. 7.


пялёсткі
дзірачка
мал. 8.


мал. 9


мал. 10.

### КВЕТКА ЦЮЛЬПАНА

Бярэм лісток паперы — гладкай або каляровай. Можа ён быць любога фармату, нават велічынёй школьнага сшытка. Можа гэта быць проста кавалак каляровай газеты. З прамавугольніка робім квадрат (мал. 1). Атрыманы квадрат заламваем па дыяганалях, а потым перавярнуўшы на другі бок, заламваем напалову (мал. 2). Развярнуўшы квадрат, складаем яго па заламаннях так, каб атрымаўся падвойны трохвугольнік (мал. 3). Цяпер трэба пакласці трохвугольнік яго падставай (доўгім бокам) да сябе, а ніжнія вострыя вуглы злажыць з двух бакоў да верхняга вугла (мал. 4). Тое самае трэба зрабіць, перавярнуўшы трохвугольнік на адваротны бок (мал. 5). Атрымаўся ў нас квадрат, які складаецца быццам з чатырох крылаў. Цяпер квадрат трэба перакласці так, каб складзеныя вуглы апынуліся ў сярэдзіне, а гладкай паверхняй наверх (мал. 6). Кладзем яго на стол так, каб зверху аказаліся вострыя складзеныя вуглы. Ад таго месца, зверху, складаем яго бакі крышку за сярэдзіну (мал. 6), так каб адзін канец боку ўвайшоў у шчыліну другога. Такім спосабам замацоўваем іх, каб не развярнуліся (мал. 7). Пераварочваем на другі і робім тое ж самае з другой парай крылаў (мал. 8). Атрымалася ў нас форма кветкі цюльпана з пялёсткамі зверху і дзірачкай на сцябло знізу. У дзірачку губамі ўдзьмухваем паветра, каб атрымаць аб'ёмістую кветку, а пялёсткі трошкі расхіляем і заламваем у іх канцы, каб было, як на мал. 10.

Засталося зрабіць сцябло для кветкі. Яго робім з палоскі паперы (нават той, якая засталася ад нашага лістка). Палоску скручваем ад вугла наскос туга пальцамі (мал. 9). Пальцы добра трошкі звільготніць. Каб сцябло не раскручвалася, трэба яго скруціць яшчэ раз у адваротны бок.

Потым усаджваем сцябло ў дзірачку кветкі, і цюльпан гатовы.

Вельмі важна, робячы цацкі з паперы, каб вельмі дакладна і роўна рабіць усе закладкі і заламанні, усе перагібы добра загладжваць, каб атрымліваць выразныя лініі фігуры.

Прыемнай забавы.

**Ваня Майстар**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 90-4, кв. 31. Лена Каралёва, вучаніца 4 класа.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 17, кв. 24. Іна Шабан, вучаніца 5 класа.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 7, кв. 76. Насця Баеўская, вучаніца 3 класа.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 6, кв. 64. Таня Штанюк, вучаніца 9 класа.

* * *

СССР, 300005, г. Тула, 8 проезд, д. 77, кв. 43. Грачковой Лене, 14 год.

* * *

СССР, 344020, г. Ростов-на-Дону, ул. Лихачёва, 19, кв. 9 Костюхиной Юлии, сёмы клас.

* * *

СССР, 300041, г. Тула, Красноармейский проспект, д. 8, кв 105. Сафроновой Ирине. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* * *

СССР, 346562, Ростовская обл., Усть-Донецкий р-н, станица Мелиховская, ул. Крючкова, д. 67, кв. 6. Полторакиной Наташе.

* * *

СССР, 346503, Ростовская обл., г. Шахты-3, ул. Свободная 72. Андреевой Ларисе. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* * *

СССР, 344059, г. Ростов-на-Дону, пос. Чкалова, ул. Краматорская, 22. Духин Андрей. Хлопчык вучыцца ў шостым класе.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Лермантава, 17, кв. 40. Света Рыжыкава, 12 гадоў.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 25, кв. 54. Лена Кулага, 11 гадоў.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 100, кв. 53. Іра Радчыкава, 11 гадоў.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 7, кв. 76. Насця Байоўская, 8 гадоў.

* * *

БССР, 220060, вул. К. Лібкнехта, 113, кв. 15. Надзя Драздова, 12 гадоў.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. К. Лібкнехта, 80, к. 1, кв. 35. Света Фарыно, вучыцца ў трэцім класе.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. К. Лібкнехта, 80, к. 1, кв. 37. Оля Мікша, вучыцца ў трэцім класе.

**(Працяг са стар. 9)**

### СВАВОЛЬСТВЫ БАБУЛІ-ЗІМЫ

Мацней злуецца зіма — да рыб яна дабіраецца: пасылае мароз за марозам, адзін за другога люцейшы. Марозікі жвава бягуць, малаткамі гучна пастукваюць: без клінняў, без падклінкаў, па азёрах, па рэках масты будуюць. Замерзлі рэкі і азёры, ды толькі зверху, а рыба ўся ўглыб пайшла: пад ледзяным дахам яшчэ цяплей.

Ну, чакай жа, думае зіма: дапяку я людзям. Шле мароз за марозам, адзін за другога люцейшы. Завалаклі марозы ўзорамі, шыбы ў вокнах, стукаюць і ў дзверы так, што бярвенні лопаюць. А людзі распалілі ў печах, пякуць сабе бліны гарачыя ды над зімою пасмейваюцца. Здарыцца каму за дровамі ў лес ехаць, апране ён кажух, валёнкі, рукавіцы цёплыя ды як пачне сякерай махаць, нават пот прашыбе. Па дарогах, нібы зіме на смех, абозы пацягнуліся: ад коней пара валіць, рамізнікі нагамі патупваюць, рукавіцамі паляпваюць, плячамі паторгваюць, марозікі пахвальваюць.

Крыўдным больш за ўсё здалося зіме, што нават малыя дзеці — і тыя яе не баяцца! Катаюцца сабе на каньках ды на санячках, у снежкі гуляюць, баб лепяць, горы будуюць, вадой паліваюць ды яшчэ мароз клічуць:

— Прыйдзі памажы!

Шчыпне зіма са злосці аднаго хлапчука за вуха, другога за нос, нават шчокі пабялеюць, а хлопчык схопіць снегу, давай церці — і разгарыцца ў яго твар, як агонь.

Бачыць зіма, што нічым ёй не ўзяць: заплакала ад злосці. Са стрэх зімнія слёзы закапалі... Відаць, вясна недалёка!

### ЗАДАННЕ ДЛЯ ЎСІХ ЧЫТАЧОЎ „ЗОРКІ".

**На першай старонцы „Зоркі" знайдзі пажаданне для ўсіх жанчын. Вазьмі каляровыя алоўкі ці мазакі і вельмі старанна і прыгожа размалюй кветачку. Калі атрымалася прыгожа, пакажы гэты малюнак сваёй маме, бабулі і цёці.**



## ПІШУЦЬ ШКОЛЬНІКІ

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

На ёлцы ў нас было вельмі міла і прыемна. Усе мы цешыліся, што Ты, „Зорка", да нас прыехала і зрабіла нам здымкі.

Я вучуся ў першым класе і яшчэ не надта добра ўмею пісаць па-беларуску.

Да пабачэння.

**Астапкевіч Віталіс, Тыневічы Вялікія.**

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



**На гэтым малюнку схаваліся звяры. Колькі іх?**



Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

З чаго смяюцца суседзі

## Я ЎСЁ РАЗУМЕЮ

Яна зраўнялася са мною, і раптам я пачуў: „Поплеч!".

Я пайшоў.

Яна працягнула мне сумачку і загадала: „Нясі!"

Я панёс.

Па дарозе Яна заглянула ў магазін. Давалі ружовыя кофтачкі ў зялёны гарошак, і яна скамандавала: „Узяць!"

Я ўзяў.

Яна зайшла да сяброўкі і гаварыла з ёю дзве гадзіны. Мне было нудна, ды яна сказала: „Сядзець!"

Я сядзеў.

Вось і ўся гісторыя. З той пары мы заўсёды разам.

Раніцай Яна гаворыць: „Служы!" Я апранаюся і іду на працу.

Яна дае мне панюхаць корак ад духоў ці пудэлачка з-пад крэму і загадвае: „Шукай!"

Я шукаю.

Вядома, бывала ўсяляк. Так вось пасядзіш, падумаеш: „А чаму, уласна?.." Два разы з хаты ўцякаў. Але тут чулася каманда: „Месца!", і вяртаўся.

Іншы раз находзішся, набегаешся па горадзе, высунуўшы язык, змучышся, як... не ведаю хто, у пару завыць!

Тады яна гладзіць мяне па галаве і ласкава прамаўляе: „Ну што ты, што ты? Разумнік, добры, добры... Ты ж усё разумееш!"

Я гляджу на яе сумнымі, вернымі вачамі, а сам і сапраўды ўсё-ўсё разумею... Толькі сказаць не магу...

**Іна Гамазкова**

— Клянуся табе, дарагая, больш і кроплі ў рот не вазьму...



# НІЎКА

У сям'і хірурга: — Тата, ты, пэўна, мала наркозу даў!

### ПРЫКМЕТА ЎЗРОСТУ

Какетнічаючы з Дацэнтовічам, Задрыпкоўская, якая, што б ні было, прагне выглядаць маладзейшай, пытае ў яго:

— Колькі ж мне гадоў, на ваш погляд, пане Дацэнтовіч?

— Калі паглядзець на вашы зубкі, вам васемнаццаць. Калі меркаваць па цудоўных чорных валасах, вам дзевятнаццаць, а па нораву — толькі чатырнаццаць, — адказаў ён.

— І на якім жа ўзросце мы спынімся? — задаволена ўсміхаючыся, пытае Задрыпкоўская.

— Давайце падсумуем: васемнаццаць плюс дзевятнаццаць, плюс чатырнаццаць — пяцьдзесят адзін. Правільна?

### ПРЫЧЫНА

— Я абажаю гэту жанчыну, але, на жаль, не магу з ёй ажаніцца, — гаворыць Замухровіч.

— Чаму ж?

— Нашы сабакі не жывуць у згодзе.

### КАМПРАМІС

Пасля сваркі жонка гаворыць:

— Добра, Коля, я праяўлю разважнасць і пайду на кампраміс: ты павінен прызнаць, што цалкам не маеш рацыі і тады я згаджуся з табою.

### ПЕРАПЛЮНУЛА

— Павіншуй, дарагая. Пасля нашай апошняй сустрэчы я стала доктарам навук.

— Фі-і... За гэты час я двойчы прафесаршаю пабывала.

**Скажы мне, які характар у тваёй жонкі, — і я скажу, колькі ты пражывеш.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Мой муж марак. Уяўляеце, адзінаццаць месяцаў у годзе ён у моры і толькі месяц на беразе.

— О, мадам, уяўляю, як вы мучыцеся!

— Нічога, памагае тое, што палавіну водпуску ён праводзіць з бацькамі.

*

Пакаёўка ўбягае і ў жаху крычыць гаспадыні:

— Мадам! Мадам! Мсье дрэнна!.. Ён упаў, сціскаючы ў руцэ нейкі рахунак, і моцна стогне:

— Цудоўна! Значыць, маю новую суканку ўжо прынеслі!

*

Жанчына, абвінавачаная ў забойстве свайго мужа, была апраўдана дзякуючы захадам прысяжнай засядацельніцы.

— Мне стала яе так шкада, — тлумачыла яна сяброўцы, — дык яна ж удава...

З „Весніка Задрыпоніі"

### БЫЦЬ МУЖЧЫНАМ

Робячы прапанову сваёй будучай жонцы, Кузьма Вярзіловіч паабяцаў ёй у выпадку станоўчага адказу дастаць зорку. Сваё абяцанне любячы муж перавыканаў: кожны дзень ён прыносіць дадому ад трох да пяці зорачак.

### ВЕРНАСЦЬ

**Пасля года супольнага жыцця са сваёй жонкай Верай Архіп Крываручка не можа глядзець на іншых жанчын без уздрыгу.**



### ЦЁТЧЫНА ПАРАДА

Стратэгічныя намеры
Мела модніца Галіна:
Жаніха знайсці з кватэрай
Ды з уласнаю машынай.

Ёй са знешнасцю прыгожай
На каханне шанцавала,
Спадабалася Сярожу
І Змітра зачаравала.

Ды з-за хлопцаў,
дайце веры,
Ледзь не плакала дзяўчына:
Не было ў Змітра кватэры,
А Сяргей — не меў машыны.

— Ой, дзяўчо, не будзь
цацерай, —
Цётка раіла Галіне. —
Завалодаўшы кватэрай,
На развод едзь на машыне.

**Пятро Сушко**



# Курʼёзы

### У „КРАІНЕ ЛЕТУЦЕННЯЎ"

Нядаўна стала сенсацыяй скасаванне шлюбу галівудскай знакамітасці — кінаакцёра Клінта Іаствуда. Ажаніўшыся ў свой час з 18-гадовай дзяўчынай Магі, ён лічыўся на працягу 30 гадоў узорным дабрачынным сем'янінам і бацькам дваіх дзяцей і ніхто не мог яго западозрыць у здрадзе жонцы. Ды вось на кіназдымках лёс сутыкнуў яго з яшчэ больш маладой зоркай Сандрай Лоске. І раз, і два, і больш ім давялося быць партнёрамі. Яны разыгрывалі сцэны закаханых і, пераступіўшы мяжу сцэны, сапраўды пакахалі адзін аднаго. Неўзабаве паўстала пытанне аб разводзе Клінта з жонкай. І тая пагадзілася ўступіць яго на 18 гадоў маладзейшай за сябе „зладзейцы" за... 25 мільёнаў долараў.

Ды ён чамусьці не спяшаўся рэгістраваць другі шлюб, спасылаючыся на занятасць чарговай кінастужкай. „Ах ты вось які нягоднік! Зусім хочаш адбіцца ад рук? — усклікнула старая жонка, шкадуючы сябе, сваіх дзяцей, а заадно і сваю падманутую, зняважаную саперніцу. — Калі так, дык я ж табе спакою не дам". Трэціруючы былога мужа, вымагаючы ў яго яшчэ большыя грошы, яна вырашыла стварыць у Галівудзе... таварыства разведзеных жонак праслаўленых акцёраў.

Смяе нямі



**Калі жанчына не карыстаецца поспехам сярод мужчын, значыць, у яе занадта многа добрых вартасцей.**